КУЛЬТУРА ▸ ГРАМАДСТВА ▸ ЭКАНОМІКА ▸
ЛЮДЗІ ▸ ПАДЗЕІ ▸ ФАКТЫ

◂ № 27 (348) ◂ 12 ліпеня ◂ 2013 г.
www.novychas.info

# Новы Час

ISSN 2218-2144



**ВАСІЛЬ ІВАШЫН**

Стар. 14

**Тайны Аршанскага ЖКГ: педафілія ды крадзеж**

Экс-упраўляючаму асацыяцыі ўласнікаў сумесных домаўладанняў «Юнацтва Оршы», 32-гадоваму Юрыю Дудкіну далі 11 гадоў строгага рэжыму

Стар. 6

**ТЭНІС І НЕЗАЛЕЖНАСЦЬ ШАТЛАНДЫІ**

Як паўплывае перамога этнічнага шатландца Эндру Мюрэя на Уімблдонскім турніры на вынік рэферэндуму аб незалежнасці Шатландыі? Гэта пытанне задаюць не толькі звычайныя грамадзяне, але і палітолагі

Стар. 12

**«НЁМАН». ГІСТОРЫЯ МАТАЦЫКЛА**

Стар. 15

**ПАВАЖАНЫЯ ЧЫТАЧЫ!**

**ВЫ ЯШЧЭ МОЖАЦЕ ПАСПЕЦЬ АФОРМІЦЬ ПАДПІСКУ НА II ПАЎГОДДЗЕ**

▸ **З НАГОДЫ**

# ДЭВАЛЬВАЦЫЯ. ПАЧАТАК?

Сяргей ПУЛЬША

**Беларускі рубель заліхарадзіла. За тыдзень ён у адносінах да долара ўпаў больш як на 100 пунктаў. Калі яшчэ 2 ліпеня курс пакупкі долара быў 8 770 рублёў за долар, то ўжо 9 ліпеня некаторыя банкі набывалі долар па 8 880.**




Наогул, 9 ліпеня долар устанавіў новы гістарычны рэкорд. Па таргах на біржы курс амерыканскай валюты ў параўнанні з папярэднім днём вырас усяго на 20 рублёў — да 8 860 беларускіх рублёў. Але для рэкорду гэтага аказалася дастаткова — так дорага «зялёны» не каштаваў ніколі за ўсю гісторыю суверэннай Беларусі. Папярэдні рэкорд — 8 850 рублёў — трымаўся амаль 20 месяцаў.

Здаецца, спраўджваюцца прагнозы незалежных эканамістаў і аналітыкаў пра тое, што без дэвальвацыі беларускай эканомікі не абысціся. Пра гэта казалі ўжо даўно, нягледзячы на ўпэўненую рыторыку ўрада і Нацбанку, што «дэвальвацыю праводзіць няма неабходнасці». Неабходнасць ёсць, і абмоўленая яна тым, што 80% беларускай прадукцыі «парыцца» на складах, і ніяк не прадаецца з прычыны высокага кошту і нізкай якасці. Адно толькі гэта, магчыма, магло спрычыніцца да аслаблення курсу рубля.

З іншага боку, такое падзенне можа быць абумоўленае і «сезонным фактарам». Грамадзяне едуць у адпачынак за мяжу. Таму цалкам лагічна, што яны набываюць валюту тут, каб праждаць на яе там. На карысць гэтага сведчыць і статыстыка набыцця насельніцтвам валюты за чэрвень. У чэрвені фізічныя асобы прадалі наяўнай замежнай валюты на 593,1 мільёна долараў, а купілі на 771,7 мільёна. Гэта значыць, на чыстай аснове насельніцтва купіла 178,6 мільёна долараў. Таксама ў чэрвені насельніцтва набыло на 86,4 мільёна безнаяўнай замежнай валюты.

Зразумела, калі ўзрастае попыт на валюту, то ўзрастае і яе кошт. Таму банкі маглі проста ўзняць курс з надзеі, што нікуды насельніцтва не падзенецца: будзе набываць па тым кошце, па якім валюту прапануюць.

Але адмыслоўцы кажуць, што такі попыт на валюту — даволі нязначны, каб выклікаць рост кошту долара на біржы. А значыць, як казаў той Папандопула, «мы на парозе грандыёзнага шухеру».

Адмыслоўцы тлумачаць такі «спуск рубля» сукупнасцю розных фактараў беларускай эканомікі. Найперш гэта, канешне, нашы складскія запасы і праблемы са знешнім гандлем. Нашая прадукцыя не знаходзіць збыту на знешніх рынках, і перш за ўсё — у Расіі. Адсюль — зніжэнне гандлёвага і плацежнага балансаў. З іншага боку, на фоне спынення прадавальнасці беларускай прадукцыі расце яе сабекошт, то бок выдаткі вытворчасці. І трэці фактар — наша знакамітая эканамічная стабільнасць і сацыяльная дзяржава. Рост заробкаў і дабрабыту насельніцтва схіляе гэтае насельніцтва да таго, каб не купляць беларускае, а набываць, можа, і больш дарагі, затое імпарт. То бок, не падтрымліваць айчыннага вытворцу, а аддаваць грошы замежнікам.

Яшчэ адзін фактар спаду рубля — гэта ўсё тая ж Расія. Расія, у межах мераў па падтрымцы ўласнага эканамічнага росту і вытворчасці, выконвае план па дэвальвацыі сваёй валюты. Расійскі рубель апошнім часам абясцэніўся прыкладна на 10%, і гэта яшчэ не мяжа. У сувязі з гэтым падае і беларускі рубель, які вельмі залежыць ад расійскага. Падае «расія» — падае і «заяц».

Але ж уся гэта сукупнасць фактараў і дазваляе казаць пра пачатак плаўнай і паступовай дэвальвацыі беларускай нацыянальнай валюты. Прынамсі, у тым, што сённяшні спад рубля — пачатак павольнай дэвальвацыі, упэўнены былы старшыня Нацбанку Станіслаў Багданкевіч. Пакуль, паводле яго слоў, рэзкае падзенне курсу рубля яшчэ стрымліваецца ўскосным шляхам — шляхам высокіх працэнтных ставак па рублёвых укладах.

Сам Багданкевіч лічыць, што ў выніку паўзучай дэвальвацыі рубель за некалькі месяцаў можа прыйсці да адзнакі ў 10 000 за долар. «Але ў Нацбанку пакуль ёсць рычагі рэгулявання гэтага працэсу, і ён можа спыніцца на адзнацы ў 9 500 за долар», — кажа Багданкевіч.

На яго думку, дэвальвацыя будзе плаўная, і на ўзроўні куплі-прапановы валюты фізічнымі асобамі панікі не будзе. «У нас ёсць магчымасць рэгуляваць гэты працэс, і ёсць пэўныя фінансавыя рэзервы. Вядома, не 8 мільярдаў золатавалютных рэзерваў, як кажуць чыноўнікі, а толькі 3 мільярды. Гэтыя «мінус пяць мільярдаў» узятыя на баланс Нацбанкам у камерцыйных банкаў. Узамен камерцыйным банкам перададзены рублёвы эквівалент гэтых пяці мільярдаў. Так што ёсць толькі 3 мільярды, і гэтага мала. Але заўсёды застаецца магчымасць прадаць актывы, прадпрыемствы або папрасіць крэдыт — не толькі міждзяржаўны, але і, напрыклад, у Ашчадбанка Расіі», — кажа Багданкевіч.

Варта адзначыць, што так лічыць не толькі Багданкевіч. Большасць экспертаў згодная з тым, што на працягу пары-тройкі месяцаў беларускі рубель будзе аслабляцца і надалей.

Проста таму, што мы рухаемся ў рэчышчы 2011 года. Краіна адчувае складанасці з прыцягненнем новых запазычанняў, эканамічная сітуацыя характарызуецца затаваранасцю складоў і апераджальным ростам заробкаў над прадукцыйнасцю працы, на фоне планаў у бягучым годзе павялічыць экспарт на 15% у першым квартале адбылося яго зніжэнне амаль на 20% у параўнанні з аналагічным перыядам мінулага года.

Так што ёсць падставы казаць: у перыяд адпачынкаў у Беларусі пачалася мяккая і плаўная дэвальвацыя нацыянальнай валюты. Ці працягнецца яна далей, і наколькі будзе мяккай — гэта пытанне зараз да Нацбанку. Але варта адзначыць, што з пачатку года долар падаражэў ужо на 290 рублёў, і гэта больш, чым за ўвесь 2012 год, калі долар вырас толькі на 220 беларускіх рублёў.

СУД

## ДУБАНОСАЎ СУПРАЦЬ «ГРАНІТА»

**У судзе Лунінецкага раёна адбылося папярэдняе пасяджэнне па іску актывіста Беларускага незалежнага прафсаюза Леаніда Дубаносава аб прызнанні яго звальнення незаконным і ўзнаўленні на працы.**

Леанід Дубаносаў патрабуе таксама абавязаць кіраўніцтва прадпрыемства выплаціць матэрыяльную дапамогу да адпачынку, якая прадугледжана па калектыўнай дамове.

На пасяджэнні высветлілася, што заява на дапамогу знікла (а па словах прадстаўніка «Граніта» ў судзе, такой заявы Дубаносаў не пісаў). Высветлілася таксама, што 7 сакавіка кіраўніцтва дасылала паведамленне пра непрацягванне кантракта. Але па адрасе, напісаным на паведамленні, Леанід не пражывае, і роспіс аб тым, што паведамленне атрымана, не яго. Пра гэта суддзя быў пастаўлены ў вядомасць.

Працяг суда адбудзецца 23 ліпеня.

Нагадаем, што Леаніда Дубаносава звольнілі з прадпрыемства «Граніт» у траўні, калі ён знаходзіўся ў адпачынку. Прычынай звальнення сталі нібыта допушчаныя рабочым 2 парушэнні: адно з іх — 29 лютага, а ў гэты дзень Дубаносаў быў на бальнічным, другое — 4 сакавіка, калі ён быў ужо ў адпачынку.

Але, на думку Леаніда Дубаносава, прычына звальнення зусім у іншым: кіраўніцтва «Граніта» не аднойчы папярэджвала актывіста, каб ён спыніў дзейнасць у незалежнай прафсаюзнай арганізацыі.

**spring96.org**

СПРАВА

## «ШПІЁНСКІ РАМАН». ПОСТСКРЫПТУМ

Сяргей ПУЛЬША

**Спецслужбы нарэшце агучылі сваю версію справы Гайдукова.**

У інтэрв'ю «Камсамольскай праўдзе ў Беларусі» першы намеснік пракурора Віцебскай вобласці Аляксандр Сідаровіч распавёў, як «выйшлі» на Гайдукова.

Быццам бы хлопец напісаў папяровы ліст у ЦРУ з прапановай супрацоўніцтва. І даручыў сябру адправіць яго з тэрыторыі іншай краіны. На даглядзе ў аэрапорце гэты ліст ускрылі супрацоўнікі спецслужбаў, паколькі «дзеянні абодвух (Гайдукова і яго сябра) ужо выклікалі пытанні». Пасля супрацоўнікі КДБ правялі «апэратыўную гульню»: адказалі Гайдукову ад імя ЦРУ, самі зрабілі тайнік, куды паклалі 300 долараў, і прапанавалі гэтыя грошы забраць. Гайдукоў нібыта пагаджаўся ўсталяваць шпіёнскую праграму на кампутары «Нафтана», дзе ён працаваў. У час атрымання грошай Гайдукова і затрымалі.

Гэтая версія — сумнеўная ва ўсіх адносінах. Па-першае, навошта Гайдукову трэба было пісаць папяровы ліст? Зараз ёсць электронная пошта, скайп, праграмы, дэшыфроўка якіх калі не немагчымая ўвогуле, то выклікае складанасці. Па-другое, хай адрас ЦРУ ён узяў на іх афіцыйным сайце — але ж не пішуцца такія лісты «на деревню дедушке». Па-трэцяе, калі ўжо пішаш папяровы ліст у ЦРУ, то навошта ў ім пісаць прапановы аб супрацоўніцтве? Можна проста перадаць пароль праграмы-шыфравальніка, з дапамогай якога ў ЦРУ проста б прачыталі закрытаваны ліст.

На думку кіраўніка арганізацыі «Прававая дапамога насельніцтву» (Украіна) Алега Волчака, падобны зліў інфармацыі пасля прысуду Гайдукову — гэта спроба апраўдацца за поўны правал у гэтай справе КДБ.

«З тлумачэнняў спадара Сідаровіча я зразумеў толькі тое, што ўся справа Гайдукова — гэта правакацыя КДБ, якая была створаная, каб даказаць патрэбнасць гэтай структуры. Гайдукоў нічога не здзейсніў, і нават не ўсталяваў кантактаў з замежнай спецслужбай. То бок, няма складу злачынства нават па артыкуле 356-1 КК. Адзінай спецслужбай, з якой ён кантактаваў, было КДБ. І КДБ выглядае не ў лепшым свеце. Гайдукова спрабуюць дыскрэдытаваць, бо зараз стаіць пытанне аб прызнанні яго палітвязнем у міжнародным маштабе», — кажа Волчак.

Па словах Волчака, пад пільным наглядам можа апынуцца любы грамадзянін. «Калі твае дзеянні, па словах Сідаровіча, «выклікаюць падазрэнні», ты не можаш быць упэўнены ў тым, што твая пошта не люструецца, тэлефоны не праслухоўваюцца і гэтак далей. Ускрыццё ліста ў аэрапорце без заведзенай крымінальнай справы, без санкцыі пракурора, невядома з якімі аператыўнымі мэтамі, невядома з якімі працэсуальнымі нормамі — гэта парушэнне таямніцы перапіскі. Тое, з чаго пачалася «справа Гайдукова», — гэта факты, атрыманыя незаконнымі сродкамі, якія па працэсуальных нормах не могуць быць доказамі ў судзе», — лічыць Волчак.

То бок, уся справа ад самага пачатку грунтавалася на незаконна атрыманых доказах. Таму, верагодна, і суд быў закрыты, бо ў справе шмат такіх «доказаў віны», якія ў адкрытым судзе не маглі быць выкарыстаныя.

«Калі дапусціць, што КДБ атрымала такі ліст ад Гайдукова да ЦРУ, навошта было даводзіць справу да суда? КДБ магло абмежавацца гутаркай альбо паставіць Гайдукова на прафілактычны ўлік, забараніць яму выезд за мяжу, і так яго «зацiснуць», што ў яго нават думкі не ўзнікала б пра супрацоўніцтва з ЦРУ альбо іншай спецслужбай», — мяркуе Волчак.

СПАДЧЫНА

## БАЛЬНІЦА ПОМНІКАМ НЕ БУДЗЕ

Марат ГАРАВЫ

**Будынку былой інфекцыйнай бальніцы Мінскага гета па вуліцы Кальварыйскай адмоўлена ў наданні статуса гісторыка-культурнай каштоўнасці — помніка гісторыі.**

Такое рашэнне прыняла Беларуская рэспубліканская навукова-метадычная рада па пытаннях гісторыка-культурнай спадчыны пры Міністэрстве культуры, паведаміў НЧ старшыня Беларускага добраахвотнага таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры Антон Астаповіч.

Таварыства накіравала ў Мінкультуры прапанову па наданні статуса помніка гісторыі будынку былой інфекцыйнай бальніцы Мінскага гета.

Сваю прапанову грамадскасць матывавала тым, што пасля акупацыі сталіцы Беларусі нацыстамі ў гады Другой сусветнай вайны ў двухпавярховым цагляным будынку грамадскай гарадской архітэктуры 1930-х гадоў (былой школе) размясцілася інфекцыйная бальніца Мінскага гета. У гэтай бальніцы пад кіраўніцтвам яе галоўнага ўрача Льва Куліка існавала яўка для сувязі з партызанамі, прымаліся зводкі Савінфармбюро, збіраліся медыкаменты для падпольных і партызанскіх баявых груп і вязняў гета. Кіраўнік падпольнай групы Леў Кулік быў схоплены нацыстамі пры спробе ўсталяваць сувязь з вязнямі Мінскай турмы і расстраляны.

Але рада палічыла, што «будынак страціў свае архітэктурныя вартасці, а памяць аб падзеях, звязаных з дзейнасцю ў гэтым будынку антынацысцкага цэнтра падчас акупацыі, у 2010 годзе ўшанавана шляхам усталёўкі мемарыяльнай шыльды на фасадзе будынка».

Толькі мемарыяльная шыльда ў гонар гераічных і трагічных падзей Другой сусветнай вайны амаль не пакідае шанцаў захавацца будынку, які знаходзіцца ў вельмі прывабным для інвестараў месцы — побач са станцыяй сталічнага метро «Фрунзенская».

«Што такое інвестыцыйныя праекты ў Мінску — ведае кожны. А памяць трэба захоўваць, і зрабіць гэта можна, у тым ліку, і праз зберажэнне матэрыяльных сведчанняў падзей мінулага. З гэтага сыходзіла таварыства, якое па супольнай ініцыятыве з сынам загінулага падпольшчыка Раманам Куліком і звярнулася ў Міністэрства культуры. Але рада пры Мінкультуры, напэўна, не асэнсавала трагічных падзей Другой сусветнай вайны і сваю адмову аб наданні былой інфекцыйнай бальніцы статуса помніка гісторыі сфармулявала вельмі цікава — стратай будынкам архітэктурных вартасцяў. Вось так і атрымалася — грамадства кажа пра неабходнасць захаваць будынак як матэрыяльнае сведку вайны, а атрымлівае адказ пра адсутнасць архітэктурных асаблівасцяў на фасадзе гэтага будынка», — падкрэсліў Антон Астаповіч.

«У Дзяржаўным спісе гісторыка-культурных каштоўнасцяў Рэспублікі Беларусь ёсць вельмі цікавыя аб'екты, нават такія, як Свята-Елісавецінскі манастыр у Навінках, што на ўскрайку Мінска. І думаеш пасля гэтага: чым сучасныя будынкі, узведзеныя літаральна колькі гадоў таму, заслужылі права знаходзіцца ў гэтым спісе насуперак крытэрыям помніка, вызначаным у законе? Адказу няма. Застаецца толькі гадаць — можа, архітэктура там геніяльная, а можа яшчэ штo? А вось з будынкам былой інфекцыйнай бальніцы Мінскага гета ўсё наадварот. І згодна крытэрыям аб'ект варты быць помнікам, і ўсё ў парадку з дакументальнымі пацвярджэннямі, і нават архітэктурнае аблічча ён амаль не страціў, што лёгка вызначыць па старых фотаздымках, толькі фасады атынкавалі. І застаецца гадаць — чаму такі будынак не варты быць помнікам? Гэта што — своеасаблівы падарунак нашай рады грамадству да 3 ліпеня? А можа ўсё значна прасцей, і проста сядзяць у радзе трошачку антысеміты?» — задаецца пытаннем Астаповіч.

ІНІЦЫЯТЫВА

## ТАЛАКА Ў КУРАПАТАХ

Марат ГАРАВЫ

**Падведзеныя прамежкавыя вынікі талакі ў Курапатах. Пра гэта паведаміў НЧ ініцыятар правядзення талакі, былы вязень ГУЛАГу, актывіст грамадскай ініцыятывы «За ўратаванне мемарыяла Курапаты» Уладзімір Раманоўскі.**

Паводле ягоных слоў, з пачатку талакі (25 траўня) яе ўдзельнікі на добраахвотнай аснове прыбралі ад смецця, хмызняку і сухастою каля 0,25 гектара тэрыторыі ўрочышча. «Да завяршэння талакі (30 кастрычніка) валанцёры ачысцяць яшчэ нейкую частку народнага мемарыяла. Аднак добраўпарадкаваць усё ўрочышча плошчай каля 30 гектара можа толькі дзяржава, бо патрэбны вялікія грошы (каля 1 мільёна долараў ЗША), каб фінансаваць працы па прыборцы гэтай тэрыторыі ад смецця, хмызняку і сухастою, іх вывазу і перапрацоўцы», — сказаў Раманоўскі.

Каардынатар ініцыятывы Ганна Шапуцька адзначыла, што талака праводзіцца на паўночна-заходнім ускрайку ўрочышча. «Мы ніколі не чакалі, што менавіта тут, насупраць пліты, дзе ўзводзіцца рэстаранна-забаўляльны комплекс «Бульбаш-хол», Курапаты знаходзяцца ў такім занядбаным стане. Шокам для нас сталі гурбы асфальту, будаўнічых матэрыялаў, бытавых адкідаў і бітага шкла ад пікнікоў і несанкцыянаванага вывазу смецця. І каб ачысціць толькі гэты бок урочышча, патрэбны вялізарныя высілкі», — сказала Шапуцька. Яна запрасіла жыхароў Мінска да ўдзелу ў талацэ па добраўпарадкаванні нацыянальнага некропалю.

Былы вязень ГУЛАГу Сяргей Ханжанкоў лічыць, што талака павінна пераўтварыць Курапаты ў мемарыял еўрапейскага значэння. «Справа ў тым, што цэнтральная частка ўрочышча ўвесь час знаходзіцца пад наглядам грамадскасці. Аднак астатняя частка Курапатаў вельмі занядбаная. Удзельнікі талакі сведчаць пра гэта і заклікаюць беларусаў, неабыякавых да сваёй трагічнай мінуўшчыны, прыйсці ў народны мемарыял, каб нам не было сорамна перад нашымі дзецьмі і ўнукамі. Перш за ўсё трэба прыбраць Курапаты так, каб можна было падыйсці да любой з больш за 500 западзін — мяркуемых пахаванняў. Пакуль жа гэта зрабіць немагчыма», — падкрэсліў Сяргей Ханжанкоў.

Дарэчы, днямі актывісты КХП-БНФ каля ахоўных памежных знакаў гісторыка-культурнай каштоўнасці міжнароднага значэння «Месца згубы ахвяраў палітычных рэпрэсій 1930–1940-х



гадоў ва ўрочышчы Курапаты» ўсталявалі металічныя чатырохканцовыя крыжы вышынёю каля пяці метраў.

Нагадаем, што шматдзённая талака ў Курапатах пройдзе ў тры этапы. Першы этап, прысвечаны 25-м угодкам публікацыі артыкула «Курапаты — дарога смерці» Зянона Пазьняка і Яўгена Шмыгалёва ў штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва» ад 3 чэрвеня 1988 года, праводзіўся штодзень з 27 па 31 мая і 1 чэрвеня.

Другі этап талакі, прысвечаны Еўрапейскаму дню памяці ахвяраў сталінізму і нацызму (23 жніўня), пройдзе з 15 па 22 жніўня, а трэці этап, прысвечаны Дню памяці ахвяраў палітычных рэпрэсій у Беларусі (29 кастрычніка), — з 21 па 28 кастрычніка. Між этапамі талака адбываецца раз на тыдзень па аўторках (пачатак а 17.00).

## ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# ХАЙ САМІ РАЗБІРАЮЦЦА…

Сяргей САЛАЎЁЎ



**Улады Беларусі працягваюць няпростае змаганне за эканамічныя паказчыкі. Хаця прайшла толькі палова года, Нацбанк ужо думае пра будучыню. Яшчэ няясна, што будзе з намі ў тыя часы, калі мы вернемся з адпачынкаў, але ўжо дакладна вядома, што будзе ў 2014-м.**

Абслугоўванне і часткаваe пагашэнне знешняга дзярждоўгу Беларусі ў 2014 годзе абыдзецца краіне ў больш чым 3 мільярды долараў, паведаміла кіраўніца Нацбанка Надзея Ермакова. «Важнай задачай (у 2014 годзе) застаецца падтрыманне залатавалютных рэзерваў на ўзроўні, які забяспечвае эканамічную бяспеку, з улікам пагашэння знешніх і ўнутраных абавязацельстваў. Павелічэнне ЗВР ускладняецца неабходнасцю пагашэння ўрадам і Нацыянальным банкам у наступным годзе абавязацельстваў перад унутранымі і знешнімі крэдыторамі на суму больш як 3 мільярды долараў», — канстатавала кіраўніца Нацбанка.

Нагадаем, што ў гэтым годзе адпаведныя затраты Беларусі ацэньваюцца прыкладна ў 3,6 мільярда долараў.

Дзе ж мы знойдзем столькі грошай? Станоўчае сальда знешняга гандлю таварамі і паслугамі Беларусі ў студзені-маі 2013 склала толькі 303,9 мільёна долараў, знізіўшыся ў 9,8 разу ў параўнанні з аналагічным перыядам мінулага года, гаворыцца ў справаздачы Нацбанка РБ. У знешнім гандлі таварамі адмоўнае сальда ў студзені-маі 2013 склала 930,9 мільёна долараў. Знешнегандлёвы абарот тавараў і паслуг знізіўся ў студзені-маі 2013-га на 16,3% у параўнанні з аналагічным перыядам мінулага года і склаў 36 725,1 мільёна. Экспарт тавараў і паслуг упаў на 20,9% да 18 514,5 мільёна долараў. То бок, прадукцыя нашая не прадаецца, і прадавацца наўрад ці будзе.

Можна, канешне, будаваць «фінансавую піраміду». То бок, узяць новы крэдыт, напрыклад, у МВФ, і з яго аддаваць старыя крэдыты. Але Ермакова як сумленная жанчына на гэта не пойдзе. Яна сама сказала, што ў прынцыпе патрабаванні МВФ да эканамічных паказчыкаў Беларусь ужо выконвае. «Такія рэкамендацыі шмат у чым сыходзяцца і адпавядаюць у цэлым палітыцы сацыяльна-эканамічнага развіцця, што праводзіцца ўрадам і Нацыянальным банкам», — сказала спадарыня Надзея, і адзначыла, што гэтыя «рэкамендацыі ў цяперашні час дэталёва разглядаюцца Нацыянальным банкам».

Паводле яе слоў, усё псуе палітыка. «На жаль, адзначаецца не цалкам аб'ектыўны падыход МВФ у частцы агульнай ацэнкі функцыянавання беларускай эканомікі», — папракала Ермакова.

То бок, крэдыт у МВФ мы браць пакуль не плануем. Таксама можна было б пайсці на супрацу з інвестарамі. Але і тут праблема: трэба яшчэ вызначыцца, хто тут сумленны. Менавіта пра тое казаў Аляксандр Лукашэнка, наведваючы свабодную эканамічную зону «Магілёў». «У Еўрасаюзе папракаюць, што ў нас тут такая бюракратыя, што не прабіцца на наш рынак. Каб вы ведалі, для губернатараў і мэра Мінска даводзіцца заданні па прыцягненні інвестыцый. Таму гэта нестаноўчая крытыка», — заявіў Лукашэнка.

«Яны, наадварот, рады, калі прыходзіць інвестар, дай Бог, прыстойны, і з такімі мы маем справу. А з жулікамі мы спраў мець не хочам. Таму крытыка, што ў нас немагчыма адкрыць бізнэс замежніку, нестаноўчая», — сказаў Лукашэнка, звяртаючыся да прысутнага пасла Літвы ў Беларусі Эвалдаса Ігнатавічуса. «Ды калі ласка, прыходзьце, працуйце. Толькі трэба бачыць, што ў нас хутка рабочых рук не хопіць на тыя працоўныя месцы, якія ўжо створаныя», — адзначыў ён.

> Можна было б пайсці на супрацу з інвестарамі. Але і тут праблема: трэба яшчэ вызначыцца, хто тут сумленны. Менавіта пра тое казаў Аляксандр Лукашэнка, наведваючы свабодную эканамічную зону «Магілёў»

Што нам не хопіць рук, дык гэта дакладна. З нашай працоўнай міграцыяй трэба, каб інвестар даваў такі ж заробак, як у Расіі альбо Еўропе. Але ж тады ўсе будуць працаваць на «інвестаравых» прадпрыемствах, а хто будзе працаваць на дзяржаўных?

У прынцыпе, Бог з імі, з уладай і інвестарамі. Хай яны самі разбіраюцца, што рабіць з іхнімі пазыкамі. А нам трэба думаць, каб адпачыць нармальна. Праўда, гэтае «нармальна» не заўсёды атрымліваецца.

Ужо доўга нам абяцаюць бязвізавы ўезд у Турцыю. Аднак з гэтым прыйдзецца пачакаць. Бязвізавы рэжым паміж Беларуссю і Турцыяй можа пачаць дзейнічаць, у лепшым выпадку, восенню бягучага года. Як паведаміў намеснік старшыні ПП НС Віктар Гумінскі, падчас сустрэчы са старшынёй турэцкага парламента ў рамках штогадовай сесіі ПА АБСЕ 28 чэрвеня — 3 ліпеня ў Стамбуле былі абмеркаваныя пытанні ратыфікацыі пагаднення. «Цяпер ідзе праца над тым, каб беларускі парламент ратыфікаваў дакументы на восеньскай сесіі. За намі пытання з прыняццем рашэння не будзе. Таксама на сустрэчы ставілася пытанне, каб у гэтым годзе ратыфікаваў пагадненні і турэцкі бок. Выключыць, што ўсе працэдуры будуць завершаны ўжо ў гэтым годзе, нельга», — кажа Гумінскі.

Але чаму яны гэтае пагадненне не ратыфікавалі на вясновай сесіі? Няўжо не ведалі, што будзе лета і адпачынкі?

Праблемы ў нас і з Літвой. Літоўскія памежнікі правялі «італьянскі страйк», калі ўсіх асоб і транспартныя сродкі, што перасякаюць мяжу, правяраюць доўга і асабліва старанна. Літоўскія памежнікі патрабуюць павышэння заробкаў і сацыяльных гарантый. Што ж, у іх не «сацыяльная дзяржава» — маюць права патрабаваць. Але прапускная здольнасць у асобных пунктах пропуску на беларуска-літоўскай мяжы з-за гэтага знізілася ў 10 разоў.

Весела зараз у Егіпце. Дэманстрацыі прыхільнікаў і праціўнікаў былога прэзідэнта-ісламіста Мухамеда Мурсі прайшлі ў курортных гарадах Хургадзе і Шарм-эш-Шэйху. Егіпецкія СМІ адзначаюць, што дэманстрацыі праходзяць мірна і на адпачынку турыстаў ніяк не адбіваюцца. Але МЗС Беларусі непакоіцца, каб нашы турысты не прывезлі сюды арабскую моду на рэвалюцыі. МЗС РБ рэкамендуе беларускім грамадзянам не пакідаць курортныя зоны і ўстрымлівацца ад паездак па Сінайскім паўвостраве, а таксама ў Каір, Александрыю, Суэц, Порт-Саід і Луксор. Грамадзянам Беларусі таксама рэкамендуецца пазбягаць месцаў з вялікай колькасцю людзей, дэманстрацый і акцый пратэсту.

На месцы турапператараў я б, наадварот, рабіў адпаведныя туры для турыстаў-экстрэмалаў. Гатэлем «усё ўключана» зараз нікога не здзівіш, а вось паўдзельнічаць у якой-небудзь рэвалюцыі — гэта б карысталася вялікім попытам. А якія б у турыстаў адтуль былі б фоткі!

## ФІГУРЫ ТЫДНЯ



### ІРЫНА ХАЛІП

Журналістка і жонка экс-кандыдата ў прэзідэнты Ірына Халіп хутка можа быць узноўленая ў правах. Матэрыялы крымінальнай справы ў дачыненні да яе накіраваныя для разгляду ў суд. «Крымінальна-выканаўчая інспекцыя Партызанскага РУУС Мінска накіравала ў суд матэрыялы крымінальнай справы, якая была распачатая ў дачыненні да мяне», — паведаміла Халіп.

«Адтэрміноўка вынесенага мне прысуду заканчваецца 21 ліпеня. Суд павінен вырашыць, накіраваць мяне ў турму альбо вызваліць ад адбыцця пакарання ў выглядзе пазбаўлення волі на 2 гады. 21 ліпеня — гэта нядзеля. Такім чынам, пасяджэнне суда павінна прайсці не пазней за 19 ліпеня», — сказала Халіп.

Нагадаем, 16 мая 2011 года жонка былога кандыдата ў прэзідэнты Андрэя Саннікава Ірына Халіп была прысуджаная да двух гадоў пазбаўлення волі з адтэрміноўкай выканання пакарання на два гады. Яна была асуджана ў межах справы аб так званых масавых беспарадках у Мінску 19 снежня 2010 года па ч. 1 арт. 342 Крымінальнага кодэкса (арганізацыя і падрыхтоўка дзеянняў, якія груба парушаюць грамадскі парадак, альбо актыўны ўдзел у іх). Цяпер яна не мае права пакідаць Мінск, абавязаная кожны тыдзень адзначацца ў міліцыі і быць дома пасля 22.00.

Між тым Лукашэнка неаднаразова казаў пра тое, што Халіп можа выязджаць з краіны, і абяцаў арганізаваць ёй такую магчымасць. У лютым Халіп дазволілі выезд у Вялікабрытанію для сустрэчы з мужам і ў Расію для ўдзелу ў рэдакцыйных мерапрыемствах «Новай газеты», дзе яна працуе. Яна вярнулася ў Беларусь 3 красавіка, у адведзены наглядным органамі тэрмін.

### УЛАДЗІМІР НЯКЛЯЕЎ



Суд Цэнтральнага раёна Мінска адмовіў экс-кандыдату ў прэзідэнты Беларусі, лідару кампаніі «Гавары праўду!» Уладзіміру Някляеву ва ўзбуджэнні крымінальнай справы па факце нападу на яго 19 снежня 2010 года. У гэтай справе проста не знайшлося падазраваных.

Нагадаем, 19 снежня 2010 года падчас руху з калонай актывістаў апазіцыі на Кастрычніцкую плошчу, дзе планаваўся мітынг, на Някляева, у той момант кандыдата ў прэзідэнты, і яго прыхільнікаў напалі невядомыя ў чорнай вопратцы і масках. Ад удараў палітык страціў прытомнасць, пазней быў дастаўлены ў бальніцу хуткай медыцынскай дапамогі з чэрапна-мазгавой траўмай сярэдняй цяжкасці. З бальніцы яго адвезлі ў СІЗА КДБ.

Уладзімір Някляеў неаднаразова звяртаўся ў розныя інстанцыі з патрабаваннем распачаць крымінальную справу па факце збіцця, аднак нідзе, у тым ліку ў пракуратуры, яго скарга не была падтрыманая. Пасяджэнне суда адбылося 10 ліпеня пад старшынствам Валерыя Есьмана. Някляеў прасіў адмяніць пастанову аб адмове ў распачынанні крымінальнай справы, падпісаную пракурорам мінскай пракуратуры Ермаковым, і абавязаць «узбудзіць крымінальную справу па факце бандыцкага нападу».

Экс-кандыдат у прэзідэнты заявіў, што разглядае напад на яго 19 снежня "як замах на жыццё". «Як грамадзянін Беларусі я маю права патрабаваць ад праваахоўных органаў знайсці тых, хто здзейсніў гэтае злачынства, і ў адпаведнасці з законам пакараць іх. Менавіта ў гэтым сутнасць майго звароту ў суд», — падкрэсліў Някляеў.

Прадстаўнік адказчыка, пракурор Бабчонак, заявіў, што не згодны з Някляевым. Пракуратура абгрунтавала адмову ў распачынанні крымінальнай справы па заяве Някляева тым, што, паводле дадзеных, атрыманых з МУС і КДБ, спецпадраздзяленні гэтых структур не праводзілі 19 снежня якіх-небудзь мерапрыемстваў у дачыненні да Някляева і яго прыхільнікаў. Суддзя Есьман вырашыў, што на гэтай падставе справу нават па факту збіцця кандыдата ў прэзідэнты можна не распачынаць.

### МІХАІЛ ГРАБОЎСКІ



Лепшым хакеістам Беларусі сезона 2012/2013 стаў форвард ЦСКА, «Таронта» і нацыянальнай зборнай Міхаіл Грабоўскі. Такімі сталі вынікі традыцыйнага апытання журналістаў і спецыялістаў, якія правяло выданне «Прэсбол».

240 рэспандэнтам, што далі згоду на ўдзел у апытанні, прапаноўвалася назваць трох, на іх думку, лепшых хакеістаў Беларусі (у тым ліку тых, хто выступаў за замежныя клубы), незалежна ад гульнявога амплуа.

Міхаіл Грабоўскі стаў пераможцам, набраўшы набраў 287 балаў. Другое месца заняў нападаючы чалябінскага «Трактара» Андрэй Касціцын (254) і галкіпер «Юнацтва», ВХЛ і «Юніёра» Віталь Бялінскі (233).

Нагадаем, Грабоўскі нядаўна са скандалам пакінуў клуб «Таронта». У барацьбу за Грабоўскага ўжо ўключыліся некалькі вядомых каманд НХЛ.

▸ **АЗБУКА ПАЛІТАЛОГІІ**

# ДВА ПОГЛЯДЫ НА ПРАБЛЕМУ ФАРМАВАННЯ БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫІ

Сяргей **НІКАЛЮК**

**Выбар у нас невялікі: ці працягваць чапляцца за існуючую мадэль і незаўважна растварыцца сярод больш дынамічных суседзяў, ці пачаць рэалізоўваць праграму па пераадоленні нацыянальнага расколу.**




Святкаванне Дня Незалежнасці — выдатная магчымасць для заяваў пра адзінства беларускай нацыі. Зразумела, адзіны палітык (АП) яе скарыстаў: *«Мы не только построили государство, но в первые два десятилетия жизни суверенной Беларуси научились справляться с традиционными угрозами нашей независимости. Прежде всего, мы обеспечили единство нации, внутренний мир и покой. Именно о наше единство разбиваются все внешние попытки разжечь пожар мятежа или разрушительной революции в Беларуси. И именно единство нации составляет фундамент нашего экономического развития».*

Скарыстаю сваё канстытуцыйнае права (Артыкул 33: «Кожнаму гарантуецца свабода меркаванняў, перакананняў і іх свабоднае выяўленне») і выкажу прынцыповую нязгоду з гэтай пераканаўчай на першы погляд заявай.

Што разумець пад адзінствам нацыі? Звернемся да апошніх прэзідэнцкіх выбараў у Польшчы. 4 ліпеня 2010 года Браніслаў Камароўскі атрымаў 53,01% галасоў, яго апанент Яраслаў Качыньскі — 46,99%. Ці варта ўспрымаць вынікі галасавання як сведчанне расколу польскай нацыі?

Аналагічныя вынікі галасавання ў краінах заходняй дэмакратыі — норма, а не выключэнне, і стракатасць электаральных пераваг не нясе пагрозы адзінству нацыі ў такога кшталту грамадствах. Але — звяртаю ўвагу — толькі ў такіх грамадствах, г.зн. грамадствах, у якіх склаўся базавы кансэнсус.

## І першыя бываюць апошнімі

Што ж гэта такое — базавы кансэнсус? Звернемся да апошніх падзей у Турцыі. Турэцкае грамадства — класічны прыклад грамадства незавершанай мадэрнізацыі, і ўжо хаця б таму яно расколатае. Поруч з прасунутай (мадэрнізаванай) часткай, што складае «меншасць», у краіне маецца і захраслая ў традыцыйным мінулым «большасць». Тое, што яна спавядае іслам, а не праваслаўе ці іншую рэлігію — факт другасны.

Тыповы традыцыяналіст чужы дзяржаўнасці. У лепшым выпадку, ён успрымае дзяржаву як аналаг вялікай сям'і, а кіраўніка дзяржавы — у якасці «бацькі». Я пісаў пра гэта неадназова. «Кансалідацыя ці, што тое ж самае, базавы агульнанацыянальны кансэнсус, — сцвярджае палітолаг Ігар Клямкін, — феномен не толькі палітычны, але і каштоўнасна-культурны. Дакладней, ён толькі таму і палітычны, што каштоўнасна-культурны». Таму падтрыманне стабільнасці, калі адсутнічае базавы кансэнсус, — праблема для любой улады, бо яна вымушана шукаць кропку раўнавагі практычна па кожным пытанні.

Як паказаў досвед першай паловы XX стагоддзя, адсутнасць базавага кансэнсусу ў грамадствах, якія знаходзяцца на пачатковай стадыі індустрыялізацыі, суправаджаецца сцвярджэннем камунізму, а ў індустрыяльных грамадствах — фашызму і нацызму. Бясспрэчна, вастрыня супрацьстаяння носьбітаў дзяржаўнай і дадзяржаўнай культур у Еўропе была значна меншай, чым у Расійскай імперыі, але выпрабаванні Першай сусветнай вайной шматлікія маладыя еўрапейскія нацыі (італьянцамі і немцамі справа не абмяжоўвалася) не вытрымалі.

У грамадствах, у якіх «большасць» з'яўляецца пераважнай, ва ўладзе ўзнікае спакуса не заўважаць «меншасць» і праводзіць палітыку выключна ў інтарэсах «большасці», чым актыўна займаўся прэм'ер-міністр Рэджэп Эрдаган. Аднак у Турцыі з яе палітычнымі традыцыямі, закладзенымі яшчэ пры Атацюрку, такая палітыка можа актывізаваць «меншасць», што мы і назіраем.

| З ЯКІМ З НАСТУПНЫХ СЦВЯРДЖЭННЯЎ ПРА БЕЛАРУСКУЮ ДЗЯРЖАВУ ВЫ Б ПАГАДЗІЛІСЯ? | |
|---|---|
| **Варыянт адказу** | **%** |
| Гэта мая дзяржава, яна абараняе мае інтарэсы | 33,2 |
| Гэта толькі часткова мая дзяржава, яна недастаткова абараняе інтарэсы такіх, як я | 45,2 |
| Гэта не мая дзяржава, яна не абараняе мае інтарэсы, і я не давяраю ёй | 15,5 |
| Цяжка адказаць | 6,1 |

Эрдаган заняў пасаду прэм'ер-міністра дзякуючы перамозе сваёй партыі на парламенцкіх выбарах. Адзначым, што і Гітлерператварыўся ў фюрара не без дапамогі выбарчай працэдуры, у дэмакратычнасці якой ніхто не сумняваўся. Гэта азбука паліталогіі: дэмакратычныя працэдуры ў расколатых грамадствах не вядуць да фармавання базавага кансэнсусу, а толькі выяўляюць яго адсутнасць. Першыя дэмакратычныя выбары ў такога кшталту грамадствах часта бываюць і апошнімі.

Такім чынам, палітычны працэс (узгадненне інтарэсаў розных сацыяльных груп шляхам дэмакратычных працэдур) у расколатых грамадствах або немагчымы, або вельмі не просты. У польскім жа грамадстве раскол пераадолены, і таму электаральнае суперніцтва розных палітычных сіл у нашых заходніх суседзяў не руйнуе стабільнасць, а ўмацоўвае яе.

## «За» — 28,14%, «супраць» — 69,92%

Беларуская аўтарытарная дзяржава мае патрэбу ў нацыі. Без нацыі ёй не выжыць. Тут прамая аналогія з бальшавікамі. Яны ішлі ў рэвалюцыю інтэрнацыяналістамі, але, не атрымаўшы падтрымкі з боку сусветнага пралетарыяту, былі вымушаны вырашаць праблему свайго выжывання ў «асобна ўзятай краіне». Без новай гістарычнай супольнасці («савецкага народа») праблема не мела рашэння.

Праілюструю ролю нацый у гісторыі на прыкладзе збірання савецкай імперыі пасля распаду яе расійскай папярэдніцы. Пазбегнуць шчасця будаваць камунізм першапачаткова змаглі толькі народы, якія прасунуліся ў пытанні фармавання нацыянальнай свядомасці ў найбольшай ступені: палякі, фіны, літоўцы, латышы і эстонцы. Пасля распаду СССР кансалідаваныя дэмакраты, зноў жа, змаглі ўсталяваць толькі прыбалты.

Дзівіцца гэтаму не даводзіцца: дэмакратыя рэалізуецца выключна ў межах нацыянальнай дзяржавы. Яна з'яўляецца выказніцай палітычнай волі народа менавіта на нацыянальна-дзяржаўным узроўні.

Дык навошта ж тады нацыя АП? Уся справа ў тым, што нацыя нацыі розніца. Варта адрозніваць дзяржаўныя нацыі, сфармаваныя вакол ідэі падпарадкавання асабістых інтарэсаў людзей задачам падтрымання магутнасці дзяржавы, ад нацый грамадзянскіх. Апошнія легітымнасць дзяржавы вызначаюць праз актыўны ўдзел грамадзян падчас прыняцця палітычных рашэнняў.

Зразумела, у чыстым выглядзе ні дзяржаўныя, ні грамадзянскія нацыі ў прыродзе не сустракаюцца, як не сустракаюцца і нацыі, выбудаваныя выключна на супольнасці культуры ці крыві. Тым не менш, у любой рэальнай нацыі мы без цяжкасці вылучым яе дамінантны тып.

У 1996 годзе беларусы рашуча адмовіліся самастойна выбіраць кіраўнікоў мясцовых органаў улады і адпаведных адміністрацыйна-тэрытарыяльных адзінак. Паводле афіцыйных вынікаў лістападаўскага рэферэндуму, за абранне прагаласавалі 28,14% ад спісковага складу выбарцаў, супраць — 69,92%. Наколькі ў прыведзеных лічбах адбілася спецыфіка беларускага грамадства, а наколькі своеасаблівасць працы выбарчых камісій — асобнае пытанне. Але арганізатараў рэферэндуму масавая адмова беларусаў ад фармавання грамадзянскай нацыі задаволіла.

## Абмежаваны выбар

А зараз звернемся да табліцы, запазычанай на сайце НІСЭПД. Яна дэманструе вынік шматгадовых высілкаў АП па будаўніцтву адзінай беларускай нацыі. Атрымалася, шчыра скажам, на тройку. Толькі кожны трэці рэспандэнт лічыць сучасную беларускую дзяржаву сваёй і верыць у тое, што яна абараняе яго інтарэсы!

Дзяржава, такім чынам, дзеліць беларусаў на сваіх і чужых, адмаўляючы пры гэтым чужым у праве на існаванне. Інакш ідэалагічная канструкцыя, ганарліва названая «адзіны народ», проста разваліцца.

Нагадаю, што пад ціскам Плошчы–2010 АП быў вымушаны прызнаць факт наяўнасці «меншасці» (20 снежня ён ацаніў яе ў 20%). Праз некалькі дзён «меншасць» атрымала персанальныя віншаванні з Новым годам: *«Свои поздравления я также адресую нашему меньшинству. Вы должны знать: вас воспринимаю как неотъемлемую часть нашего общества, со своими целями, взглядами и устремлениями. Вы имеете свою точку зрения, особое понимание мироустройства и развития нашей страны. Это ваше право, которое отнять у вас никто не может. Но вы должны знать: ваше мнение нам не безразлично. И мы вместе с подавляющим большинством нашего народа будем бороться за вас, ваши взгляды. Мы будем искать пути к вашим умам и сердцам, потому что иначе невозможно объединить общество, сохранить страну и решить задачи, стоящие перед нами».*

Працягу, аднак, не здарылася. Перайсці ад дэкларацыі да рэальнага пошуку шляху да розуму і сэрцаў «меншасці» АП так і не адважыўся. Але я цалкам салідарны з яго сцвярджэннем, што *«иначе невозможно объединить общество, сохранить страну и решить задачи, стоящие перед нами».*

Ва ўмовах эканамічнага крызісу шэрагі «большасці» радзеюць. У чэрвені давяралі АП 49% беларусаў, але толькі 61% з тых, хто давярае, назваў беларускую дзяржаву сваёй. Сярод «меншасці», што не давярае АП (а такіх у чэрвені НІСЭПД налічыў 41%), падобны погляд на дзяржаву выказалі 5%!

Сваёй беларускую дзяржаву лічаць 69% рэспандэнтаў з пачатковай адукацыяй і 32% з вышэйшай, 57% ва ўзросце 60 гадоў і старэй і 23% ва ўзросце ад 18 да 30 гадоў. Нічога нечаканага ў гэтым няма: дзяржава «большасці» выяўляе інтарэсы «большасці», а яе ядро ў Беларусі складаюць перыферыйныя сацыяльныя групы: пажылыя людзі, з нізкім узроўнем адукацыі, якія пражываюць пераважна ў малых гарадах і сельскай мясцовасці. Словам, усе тыя, хто без апекі з боку дзяржавы выжыць не ў стане.

Клопат пра слабых робіць гонар любой дзяржаве. Але для клопату патрэбныя рэсурсы. Аднак асноўны ўнёсак у іх вытворчасць робіць «меншасць», шлях да розуму і сэрцаў якой АП адмовіўся шукаць.

Свет імкліва змяняецца. Ці не пра гэта нам увесь час нагадвае АП. Тым часам, выбар у нас абмежаваны: ці працягваць чапляцца за існуючую мадэль і незаўважна растварыцца сярод больш дынамічных суседзяў, ці пачаць рэалізоўваць праграму па пераадоленні нацыянальнага расколу.

ДАТА

# ДЗЯРЖАВА, У ЯКОЙ МЫ ЖЫВЕМ 19 ГАДОЎ

Сяргей ПУЛЬША

**10 ліпеня 19 гадоў таму Аляксандр Лукашэнка перамог на выбарах прэзідэнта Беларусі Вячаслава Кебіча. Шмат хто называе тыя выбары першымі і апошнімі дэмакратычнымі выбарамі прэзідэнта Беларусі. А Лукашэнка застаецца першым і адзіным прэзідэнтам з тых часоў.**

За гэты час можна было зрабіць шмат чаго. Выканаць і перавыканаць свае абяцанні, спраўдзіць усе свае мары і надзеі. За гэты час вырасла нават пакаленне людзей, якія жывуць у незалежнай краіне і не ведаюць, што такое СССР. Не памятаюць яны і іншага кіраўніка. З нагоды такой даты можна і задумацца: якую ж краіну пабудаваў Аляксандр Лукашэнка.

Лукашэнка найчасцей называў Беларусь — «дзяржава для народа». На жаль, сам народ, здаецца, не ведае, што гэта яго ная дзяржава.

Паказальным у гэтым плане з'яўляецца апытанне Незалежнага інстытута сацыяльна-эканамічных і палітычных даследаванняў (НІСЭПД, Літва), вынікі якога былі апублікаваныя за дзесяць дзён да асабістага Дня народзін Аляксандра Лукашэнкі. Згодна з апытанкай, ніякай «дзяржавы для народа» ў нас не існуе. Толькі 33,2% апытаных пагадзіліся з тым, што Беларусь — «гэта мая дзяржава і яна абараняе мае інтарэсы». «Гэта толькі часткова мая дзяржава, недастаткова абараняе мае інтарэсы і такіх як я» — з такім сцвярджэннем згодныя 45,2%, а 15,5% лічаць, што «гэта не мая дзяржава і я не давяраю ёй». Гэта значыць, 60,4% грамадзян Беларусі ў свядомым узросце так ці інакш не вераць у «дзяржаву для народа».

Адпаведна, людзі бачаць і чыноўнікаў гэтай дзяржавы. 44,4% лічаць, што беларускія чыноўнікі — гэта людзі, заклапочаныя толькі сваім матэрыяльным становішчам і кар'ерай. 13,8% мяркуюць, што беларускае чыноўніцтва — гэта сумленныя, але малакампетэнтныя людзі, якія проста не ведаюць, як вывесці краіну з эканамічнага крызісу. 15,3% думаюць, што чыноўнікі — гэта сумленныя, але слабыя людзі, якія не ўмеюць распарадзіцца ўладай і забяспечыць парадак і паслядоўны палітычны курс.

У прынцыпе, як адзначыў у размове з «Новым часам» палітолаг, аўтар кнігі «Аляксандр Лукашэнка: палітычны партрэт» Валер Карбалевіч, першы прэзідэнт прыйшоў да ўлады не для таго, каб стварыць «дзяржаву для народа». «Лукашэнка стварыў класічную аўтарытарную дзяржаву, проста як у падручніках. Тут не варта казаць пра нейкія асаблівасці ягонай сістэмы — гэта проста класіка», — лічыць Карбалевіч.

Гэта атрымалася неяк само сабою, бо ў Лукашэнкі «воля да ўлады» была вельмі моцнай, адзначае ён. «Першапачаткова ў яго не было ніякага плана, ніякай праграмы, ніякай каманды — толькі прага да ўлады і нежаданне гэтую ўладу з некім дзяліць», — кажа Карбалевіч.

Адпаведна, гэтая моцная аўтарытарная тэндэнцыя пераважыла і ўсе іншыя, у тым ліку — стварыць «дзяржаву для народа». Тое ж, як успрымаецца кіраўніцтва дзяржавы ў вачах народа, па меркаванні Карбалевіча, не вельмі істотна для самой сістэмы аўтарытарнай улады. «Тое, што народ не задаволены ўладай — ну, дык беларускі народ ніколі не быў задаволены ніякай уладай. У гэтым няма нічога новага. Чыноўніцкі апарат дзейнічае ў межах пастаўленай ім прэзідэнтам задачы: захаваць уладу. І ў гэтым плане ён эфектыўны, бо дазваляе ўтрымліваць уладу і забяспечвае пэўны ўзровень падтрымкі палітыкі Лукашэнкі ў грамадстве. А «дзяржава для народа» — дык гэта проста нерэалізуемы праект», — лічыць Карбалевіч.

Вядома, што Лукашэнка прыйшоў да ўлады на лозунгу барацьбы з карупцыяй. Але карупцыю ён не толькі не зжыў — яна квітнее. Між тым, толькі 30,2% беларусаў згодныя з тым, што прэзідэнт можа дамагчыся поспеху ў барацьбе з карупцыяй, правёўшы рашучую чыстку шэрагаў чыноўнікаў вышэйшага звяна і зрабіць больш жорсткім пакаранне за падобныя злачынствы. 27,8% лічаць, што «яму наўрад ці ўдасца дамагчыся істотных поспехаў, таму што карупцыя ў Беларусі невыкаранільная», 19,3% — што «ён сам шмат у чым залежыць ад карумпаваных чыноўнікаў», а 18,2% — што «ён і не будзе сур'ёзна змагацца з карупцыяй, паколькі тым ці іншым чынам сам зацікаўлены ў ёй».

Варта адзначыць апошнія два пункты. 37,5% беларусаў лічаць, што галоўны барацьбіт з карупцыяй сам і ёсць рассаднік карупцыі ў краіне.

Кіраўнік Цэнтра Мізэса Яраслаў Раманчук лічыць, што насамрэч барацьба з карупцыяй Лукашэнку не цікавіла. Ён ператтварыў карупцыю ў працэс, з якім можна змагацца, але перамагчы яго нельга. Высокая карумпаванасць у Беларусі, на думку Раманчука, абумоўлена самой «беларускай мадэллю». «У дзяржаве 7 000 функцый і паўнамоцтваў. Чалавек у той жа час думае пра свае інтарэсы. Канфлікт інтарэсаў — галоўны карупцыйны складнік. Напрыклад, калі чалавек ва ўрадзе з'яўляецца куратарам эканамічных праектаў, адначасова з гэтым «вядзе» Банк развіцця, і ў той жа час адказвае за мадэрнізацыю. Зразумела, ён будзе выкарыстоўваць гэтыя рычагі для дасягнення сваіх мэтаў», — кажа Раманчук.

Такім чынам, 19 гадоў прэзідэнцтва — гэта пастаянная барацьба супрацьлегласцяў. З аднаго боку, хацелася б, каб першага прэзідэнта запомнілі як стваральніка моцнай сацыяльнай дзяржавы. З іншага — вельмі ўжо «сацыялізаваць» дзяржаву не атрымліваецца: трэба ўсё трымаць пад кантролем, а чыноўнікаў — пад карупцыйным кампраматам. Як кажуць, хацелася б у рай, ды грахі не пушчаюць…



АПЫТАННЕ

# З НЕДАВЕРАМ ДА БЕЛАРУСКАГА ЦУДА…

Сяргей ПУЛЬША

**Нашы грамадзяне з нейкім недаверам ставяцца да беларускай эканамічнай мадэлі і беларускага шляху развіцця. Здавалася б, крызіс 2011 года пераадолены, заробкі растуць, інфляцыя стрымліваецца… Але ж сядзіць у беларусах «чарвячок сумневу».**

Пра тое, што эканамічнае самаадчуванне беларусаў у апошні час палепшылася нязначна, сведчыць апытанне НІСЭПД, праведзенае ў чэрвені гэтага года. Эксперты інстытута для пачатку аперуюць лічбамі афіцыйнай статыстыкі, — з пачатку года рэальны заробак у беларусаў вырас на 21,5%. Праўда, «дзеля справядлівасці» сацыёлагі адзначаюць, што, падвышаючы такім істотным чынам сярэднюю зарплату, дзяржава была вымушана парушыць адзін з базавых прынцыпаў беларускай мадэлі — прынцып сацыяльнай справядлівасці. У прыватнасці, рэальная заробатная плата работнікаў бюджэтных арганізацый за студзень-красавік павялічылася на 6,8%, а заробак будаўнікоў — на 43,3%.

Што ж мы маем? Толькі 13,7% рэспандэнтаў адзначылі, што іх матэрыяльнае становішча палепшылася. «Дзеля справядлівасці» тут варта адзначыць, што рост гэтага паказчыка ў параўнанні з сакавіком склаў толькі 0,5%. Пераважная большасць (61,3%) лічыць, што іх матэрыяльнае становішча не змянілася, а 21,6% — увогуле «пагоршылася».

Гэта значыць, што рост заробкаў «з'ела» інфляцыя, якая афіцыйна ў краіне склала з пачатку года толькі 6,9%. Але ж рост заробкаў быў у тры разы вышэйшы.

Канешне, гэта не першы і не апошні раз, калі афіцыйныя лічбы не супадаюць з адчуваннем грошай у кішэнях грамадзян.

Больш сумна выглядае тое, як самі грамадзяне ўспрымаюць свой узровень даходаў. Паводле НІСЭПД, 45,3% апытаных адзначаюць, што грошай ім хапае толькі на ежу і адзенне, а набыццё нейкіх тавараў доўгатэрміновага карыстання для іх ужо становіцца складаным.

Але больш павінна насцярожваць тое, што ў 37,2% хапае грошай на прадукты, а цяжкасці выклікае набыццё нават адзення.

І самым яскравым паказнікам «эканамічнага цуду» з'яўляецца якраз разбежка паміж самымі беднымі і самымі багатымі грамадзянамі. Дазволіць сабе набываць сапраўды дарагія рэчы, тыпу кватэры, дачы, машыны, могуць толькі 0,6% апытаных. А вось тых, каму толькі-толькі на ежу хапае, у краіне — 8,5%.

То бок, колькасць самых забяспечаных — менш за працэнт і значна менш за памылку выбаркі ў 3%. А вось колькасць тых, хто амаль зводзіць канцы з канцамі — амаль утрая большая за гэтую памылку выбаркі.

Гэта значыць толькі тое, што на дадзеным этапе казаць пра нейкую «сацыяльную дзяржаву» не выпадае. Канешне, асноўная маса насельніцтва знаходзіцца ў аднолькавай роўнасці. Але мы вымушаныя прызнаваць, што гэтая роўнасць — роўнасць бедных, а не багатых. Калі б у такой роўнасці былі б тыя, каму нескладана набываць рэчы доўгатэрміновага карыстання, не кажучы ўжо пра аўтамабілі, — тады б можна было б казаць пра «беларускі эканамічны цуд».

Не дзіва, што чаканні народа ў будучыні — таксама не аптымістычныя. 49,1% не чакаюць, што ў Беларусі што-небудзь зменіцца ў бліжэйшыя гады. Тое, што будзе горай, чакаюць 23,7% апытаных. І толькі 17,7% з аптымізмам глядзяць у будучыню. Але пры тым, што «цалкам задаволеных жыццём» толькі 0,6%, гэтыя 17% можна назваць альбо «клінічнымі аптымістамі», альбо тымі, хто лічыць, што зараз настолькі кепска, што яшчэ горш быць проста не можа. Такім можна параіць узгадаць Астапа Бэндэра з ягонай высновай пра тое, што «фінансавая прорва — гэта прорва, у якую можна падаць бясконца».

Між тым, паказчык «упэўненасці ў будучыні» на гэтым этапе развіцця дзяржавы надзвычай важны. У нас ідзе аптымізацыя, мадэрнізацыя і яшчэ Бог ведае якая «цыя». Без упэўненасці ў тым, што мадэрнізацыя нам дапаможа, увогуле наўрад ці магчыма што-небудзь мадэрнізаваць. У лепшым выпадку, такія чаканні прывядуць да запаволенай працы, а ў горшым — будзе ціхі сабатаж нармальнай інтэнсіўнай работы: «усё роўна нічога не зменіцца, а таму працуй, не працуй — па барабане». Песімістычныя чаканні насельніцтва ў вялікай ступені ўплываюць на тэмпы вытворчасці і на працоўны энтузіязм. Без такога энтузіязму што-небудзь важкае зрабіць даволі складана.

Таму не дзіва, што нашы людзі, не адчуваючы ў кішэнях вынікаў сваёй працы, лічаць, што беларуская эканоміка знаходзіцца ў агульным крызісе. Так мяркуюць 59,8% беларусаў. 29,5% лічаць, што крызісу альбо не было, альбо ён ужо скончыўся, і крызіснага стану эканомікі Беларусі не бачаць.

У прынцыпе, не заўважыць крызіс складана, бо ўсе толькі і пішуць пра тое, як нашы чыноўнікі, не зважаючы на рангі і пасады, «разгружаюць склады», а запасы на іх усё роўна растуць. Эканаміст Леанід Заіка назваў гэтую справу класічным «крызісам перавытворчасці», апісаным усімі класікамі жанру ад Маркса і да Кейнса. Выйсце з гэтага — перапрафіляванне вытворчасці і тая ж мадэрнізацыя, але як правесці мадэрнізацыю з такімі настроямі насельніцтва — невядома.

І як вынік усяго гэтага — толькі 39,6% апытаных лічаць, што краіна развіваецца ў правільным кірунку. 45,5% мяркуюць, што абраны кірунак для развіцця краіны — няправільны і павінен быць зменены. Варта адзначыць, што «правільнасць-няправільнасць» у пытанні НІСЭПД была пададзеная не ў чыста эканамічным плане, а як «у цэлым становішча ў нашай краіне».

Калі казаць пра «цэлае», то гэта ўжо сур'ёзны факт, якім дзяржава павінна занепакоіцца. Бо гэта тычыцца не толькі эканомікі, сацыяльных пытанняў, але і палітыкі. 52,3% насельніцтва падтрымліваюць правядзенне ў Беларусі рэферэндуму, які б вызначыў далейшае развіццё краіны.

9

# ТЭЛЕТЫДЗЕНЬ

## 19 ЛІПЕНЯ, ПЯТНІЦА

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00, 07.20, 08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.35** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Меладраматычны серыял «Добры дзень, мама!» (Украіна).
**10.05** Меладраматычны серыял «Земскі доктар. Працяг « (Расія).
**11.05** Дакументальны серыял «Пад сонцам» (ЗША).
**12.10** Мюзікл «Тры мушкецёры» (Украіна).
**14.00** Дэтэктыў «Цень самурая» («Беларусьфільм»). 4-я серыя, заключная.
**15.15, 18.40** Навіны рэгіёна.
**15.25** Сфера інтарэсаў.
**15.45** Камедыйны серыял «Мужчына ўнутры мяне» (Расія).
**16.45** Дакументальна-біяграфічны цыкл «Мая праўда « (Украіна).
**17.40** Меладраматычны серыял «Добры дзень, мама!» (Украіна).
**19.20, 00.05** «Зона Х». Вынікі тыдня.
**19.55** Меладраматычны серыял «Земскі доктар. Працяг» (Расія). Заключная серыя.
**21.00** Панарама.
**21.55** Рамантычная камедыя «Звычка жаніцца» (ЗША).
**00.50** Дзень спорту.
**01.05** Камедыйны серыял «Мужчына ўнутры мяне» (Расія).

### ОНТ

**06.00, 08.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Жыць здарова!».
**10.25** «Кантрольны закуп».
**11.00** Нашы навіны.
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Закрытая школа». Шматсерыйны фільм.
**12.10** Прэм'ера. «Жаночы доктар 2». Шматсерыйны фільм.
**13.00** Нашы навіны.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Добрага здароўейка!».
**14.00** «Модны прысуд».
**15.05** «Я падаю на развод».
**16.00** Нашы навіны.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** Фільм «Слова для абароны».
**18.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** АНТ прадстаўляе: «Чакай мяне». Беларусь.
**18.55** Поле цудаў.
**20.00** Час.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Шматсерыйны фільм «Адлюстраванне».
**22.15** Прэм'ера. Фільм «Свет Кормана».
**23.55** Фільм «Кароль більярда».
**02.15** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.30** «24 гадзіны».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**09.00** «Нам і не сніласяя».
**10.05** «Аўтапанарама».
**10.30** «24 гадзіны».
**10.40** «Прошаная вячэра».
**11.35** «Слова жанчыне». Серыял.
**12.30** «Джэймі: ў пошуках смаку».
**13.00** «Добры дзень, доктар».
**13.30** «24 гадзіны».
**13.50** Фільм «Начныя сёстры». Расія, 2007г.
**15.40** «Ашуканыя навукай».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Пад абаронай».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** Прэм'ера. «Эліксір маладосці».
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.40** Фільм «Лёгкія грошы». Канада, 1998г.
**22.30** «24 гадзіны».
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Ежа багоў».
**00.00** Еўрапейскі покерны турнір.
**00.50** Фільм «Чатырыста ўдараў». Францыя, 1959г.

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Іранічны дэтэктыў «Пацалунак Сакрата» (Беларусь)
**10.10** Час футбола.
**11.05** Народная камедыя (СССР).
**13.00** Камедыйны серыял «Людзі Шпака» (Расія).
**14.55** Баявік «Бой з ценем» (Расія). 3-я і 4-я, заключная серыі.
**16.45** Дакументальны серыял «Усе грані вар'яцтва» (Германія).
**17.20** Беларуская кухня.
**17.55** Рэгіянальная праграма.
**19.00** Камедыя «Не гаруй!» (СССР).
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Рамантычная камедыя «Бізнэс дзеля кахання» (ЗША).
**23.10** Рэпарцёр «Беларускай часіны».
**23.55** Пляжны футбол. Еўраліга. Другі адборачны раўнд. Італія - Беларусь.
**01.10** Арэна.

### РОССИЯ телеканал

**07.00** «Раніца Расіі».
**10.00** «Адмысловы выпадак».
**11.00** Весткі.
**11.30** «Прамы эфір».
**12.40** Тэлесерыял «Раскол».
**13.50** Навіны - Беларусь.
**14.00** Весткі.
**14.30** «1000 дробязяў». Ток-шоў.
**15.10** «Пра самае галоўнае». Ток-шоў.
**15.55** Тэлесерыял «Земскі доктар. Працяг».
**16.50** Навіны - Беларусь.
**17.00** Весткі.
**17.15** Мясцовы час. Весткі - Масква.
**17.30** Весткі. Дзяжурная частка.
**17.50** «Таямніцы інстытута высакародных дзяўчын». Тэлесерыял.
**18.50** «Ефрасіння. Тайговае каханне». Тэлесерыял.
**19.50** Навіны - Беларусь.
**20.00** Весткі.
**20.45** Прэм'ера. «Крывое люстэрка».
**22.35** Тэлесерыял «Земскі доктар. Працяг».
**23.35** Навіны - Беларусь.
**23.45** Фільм «Асабістая справа маёра Баранава» (2012 г.).
**01.30** «Пацалуйце нявесту!» Тэлесерыял.

### НТВ

**06.00** Інфармацыйны канал «НТБ раніцай».
**08.40** Серыял «Вяртанне Мухтара».
**10.00** Сёння.
**10.20** «Серыял «Вяртанне Мухтара» (працяг).
**11.00** «Да суда».
**11.55** «Суд прысяжных».
**13.00** Сёння.
**13.30** Вострасюжэтны серыял «Вуліцы пабітых ліхтароў».
**15.10** «Справа густу».
**15.40** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.00** Сёння.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**18.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.00** Сёння.
**19.35** Серыял «Масква. Тры вакзалы».
**23.10** Дэтэктыўны серыял «Глушэц. Працяг».

### МИР

**05.00** Тэлесерыял «Агонь кахання».
**06.40** Тэлесерыял «Арабэла».
**07.05** Праграма «Цік-так».
**07.20** Мультсерыял «Смешарыкі».
**08.30** Тэлесерыял «Йохан ды Мар'я».
**09.00** Навіны Садружнасці (беглы радок).
**09.10** Мастацкі фільм «Цягнік па-за раскладам».
**10.40** Праграма «На шашлыкі».
**11.10** Дакументальны фільм «У свеце мінулага».
**12.00** Навіны Садружнасці (беглы радок).
**12.25** Мастацкі фільм «9 месяцаў».
**14.15** Праграма «Сардэчна запрашаем».
**14.45** Праграма «Рэспубліка сёння».
**15.00** Навіны Садружнасці (беглы радок).
**15.25** Тэлесерыял «Заручальны пярсцёнак».
**17.00** Праграма «Сакрэтныя матэрыялы».
**17.30** Праграма «Злачынства і пакаранне».
**18.00** Навіны Садружнасці (беглы радок).
**18.45** Мастацкі фільм «Вальс на развітанне».
**20.20** Дакументальны фільм «Буба».
**20.50** Мастацкі фільм «Будзь здаровы шаноўны!».
**22.10** Мастацкі фільм «А вось і доктар».
**23.45** Мастацкі фільм «Нартой».
**01.20** Праграма «Сардэчна запрашаем».
**01.50** Мастацкі фільм «Цягнік па-за раскладам».
**03.15** Мастацкі фільм «Дзяўчына з характарам».

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Аб'ектыў.
**07.25** Студыя «Белсат».
**08.00** «Пераемнікі», дакументальна-публіцыстычны цыкл.
**08.15** «Жыццё ля поплаву», тэлесерыял: 11 серыя.
**09.00** Блізкая гісторыя. Іншы погляд: «Я бачыла «Рассвет», дак. фільм.
**09.35** Невядомая Беларусь: «Рок назаўжды–2», дак. фільм, Беларусь: ч. 2.
**10.10** На колах (аўтамабільны тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**10.35** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**17.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**17.05** «Піпі Доўгаяпанчоха», серыял: 14 серыя.
**17.30** «Эміль з Лённэбэр'і», серыял: 7 серыя.
**18.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**18.05** «Акварыум», серыял: 2 серыя.
**18.55** Еўропа сёння (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**19.25** Невядомая Беларусь: «Гаспадар.», дак. фільм, 2008 г., Польшча.
**19.50** Калыханка для самых маленькіх: «Мядзведзікі».
**20.00** Форум (ток-шоу).
**20.45** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Студыя «Белсат».
**22.00** «Апантаныя», дак. цыкл.
**22.10** «Кароль-вінароб», серыял: 12 серыя.
**23.00** «Лепей быць прыгожай і багатай», камедыя, 1993 г., Польшча.
**00.35** Лета з дэтэктывам: «Дэфект», тэлесерыял: 7 серыя.
**01.30** Аб'ектыў.
**01.55** Студыя «Белсат».

## 20 ЛІПЕНЯ, СУБОТА

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00** Камедыйны дэтэктыў «Шукайце жанчыну» (СССР). 1-я і 2-я серыі.
**08.30** Існасць.
**09.00, 12.00, 15.00, 19.00** Навіны.
**09.10** Зямельнае пытанне.
**09.35** Камедыйны серыял «Калі ў вас няма цёткі» (Расія - Украіна). 1-я і 2-я серыі.
**11.35** Усё як мае быць!
**12.10** Камедыя «Міміно» (СССР).
**14.15** Вакол планеты.
**15.15** Навіны рэгіёна.
**15.30** Дакументальны цыкл «Зорнае жыццё» (Украіна).
**16.25** Каробка перадач.
**16.55** «Славянскі базар у Віцебску-2013».
**18.35** Навіны. Цэнтральны рэгіён.
**19.15** Прэм'ера! Лірычная меладрама «У Бога свае планы» (Расія).
**21.00** Панарама.
**21.40** Фантастычны трылер «Армагедон» (ЗША).
**00.15** Дзень спорту.
**00.25** Камедыйны серыял «Калі ў вас няма цёткі» (Расія - Украіна). 1-я і 2-я серыі.

### ОНТ

**07.00** «Суботняя раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Смешарыкі. Новыя прыгоды».
**09.20** «Здароўе».
**10.25** «Смак».
**11.05** «Ідэальны рамонт».
**12.05** Камедыя «Кот у мяшку».
**14.00** «Спадчына». Шматсерыйны фільм.
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** Прэм'ера. «Аляксей Герман. Цяжка быць з Богам».
**17.40** «Адгадай мелодыю».
**18.20** «Клуб Вясёлых і Знаходлівых». Вышэйшая ліга.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Сёння ўвечар».
**22.50** Фільм «Я, робат».
**00.55** Трылер «Муха».

### СТВ

**06.40** «Салдаты». Серыял.
**08.20** Фільм «Лёгкія грошы». Канада, 1998 г.
**10.05** «Чыстая праца».
**11.00** «Жанчыны ХХ стагоддзя».
**11.30** «Мінск і мінчане».
**12.05** «Сакрэтныя тэрыторыі».
**13.05** «Прыгоды дылетанта».
**13.40** «Чатыры танкісты і сабака». Серыял.
**14.45** «Ваенная таямніца».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.45** «Наша справа».
**17.00** «Вялікі горад».
**17.40** «Такі лёс».
**18.30** «Дзіўная справа».
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «СТБ-спорт».
**20.10** Фільм «Дзяўчына, якая грала з агнём». Швецыя-Данія-Германія, 2009г.
**22.35** СТБ прадстаўляе: «Зорны рынг».
**23.35** Фільм «Новы ашуканец». Германія, 2007г.
**01.15** «Дакументальны праект».
**02.05** «Глядзець усім!».

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.20** Мультфільмы.
**07.55** Фільм-казка «Руды, сумленны, закаханы» («Беларусьфільм»). 1-я і 2-я серыі.



**10.25** Пазакласная гадзіна.
**10.50** Тэлебарометр.
**10.55** Камедыя «Не гаруй!» (СССР).
**12.45** Пад грыфам «Вядомыя».
**13.20** Дакументальны серыял «Усе грані вар'яцтва» (Германія).
**14.00** Дача здароўя.
**14.40** Пляжны футбол. Еўраліга. Другі адборачны раўнд. Беларусь - Нідэрланды. Прамая трансляцыя.
**16.55** Камедыйны баявік «Дрэнная кампанія» (ЗША-Чэхія).
**19.15** Ваша лато.
**19.55** Латарэя «Пяцёрачка».
**20.15** Вышэй за дах.
**20.55** Тэлебарометр.
**21.00** «КЕНО».
**21.05** Містычны баявік «Ван Хельсінг» (ЗША-Чэхія).
**23.30** Драма «Золата» (Расія-Італія).

### РОССИЯ телеканал

**07.00** «Крывое люстэрка».
**08.30** Фільм «Асабістая справа маёра Баранава» (2012 г.).
**10.25** «Ранішняя@пошта».
**11.00** Весткі.
**11.15** «Суботнік».
**11.55** «PROтурызм».
**12.10** «Ха». Маленькія камедыі.
**12.35** Камедыя «Вуліца поўная нечаканасцей».
**14.00** Весткі.
**14.15** «Хвілінная справа». Забаўляльная праграма.
**15.10** «Фокус - покус. Чароўныя таямніцы».
**18.10** «Суботні вечар».
**19.55** Надвор'е на тыдзень.
**20.00** Весткі.
**20.30** Фільм «Чатыры поры лета» (2011 г.).
**00.00** 1/4 фіналу Першай лігі МС КВЗ.

### НТВ

**06.25** Серыял «Злачынства будзе раскрыта».
**08.00** Сёння.
**08.20** «Іх норавы».
**08.55** «Гатуем».
**09.25** «Справа густу».
**10.00** Сёння.
**10.20** «Галоўная дарога».
**10.50** «Кулінарны паядынак».
**11.55** «Кватэрнае пытанне».
**13.00** Сёння.
**13.20** «Прафесія-рэпарцёр».
**13.50** «Следства вялі.».
**14.40** «Вочная стаўка».
**15.30** «ГРУ: таямніцы ваеннай выведкі».
**16.20** Вострасюжэтны серыял «Дзяржаўная абарона».
**19.00** Сёння.
**19.25** Вострасюжэтны серыял «Дзяржаўная абарона» (працяг).
**20.15** Прэм'ера. Вострасюжэтны серыял «Дзяржаўная абарона-2».
**23.40** Дэтэктыўны серыял «Глушэц. Працяг».

### МИР

**05.00** Дакументальны фільм «Галівудскія пары».
**06.00** Мультфільмы.
**07.35** Праграма «Мільён пытанняў пра прыроду».
**07.50** Мультсерыял «Смешарыкі».
**08.15** Праграма «Эксперыментатары».
**08.30** Праграма «Мар! Дзейнічай! Будзь!».
**09.00** Навіны Садружнасці (беглы радок).
**09.10** Праграма «На шашлыкі».
**09.40** Праграма «Зроблена ў СССР».
**10.10** Мастацкі фільм «Вышэй вясёлкі».
**12.50** Мастацкі фільм «Вальс на развітанне».
**15.00** Навіны Садружнасці (беглы радок).
**15.10** Тэлесерыял «Чэрчыль».
**20.00** Мастацкі фільм «Зайздрасць багоў».
**22.25** Мастацкі фільм «Атлантык-Сіці».
**00.20** Музычны ілюмінатар. 51 выпуск. Depeche Mode.
**00.50** Мастацкі фільм «Колькі засталося да світання».
**04.25** Праграма «Зроблена ў СССР».

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Аб'ектыў.
**07.25** Студыя «Белсат».
**08.00** «Апантаныя», дак. цыкл.
**08.15** Казкі для дзетак: «Аповеды таты Бабра», «Прыгоды і паходы», «Пацукі».
**08.45** «Між намі, буслямі», анімацыйны серыял для дзяцей: 7 серыя.
**09.10** «Піпі Доўгаяпанчоха», серыял: 13 серыя.
**09.40** «Чарцюк з сёмага класу», дэтэктыўна-прыгодніцкі серыял: 7 серыя.
**10.25** Форум (ток-шоу).
**11.15** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**11.40** Невядомая Беларусь: «Рок назаўжды–2», дак. фільм, Беларусь: ч. 1.
**12.15** «Жыццё ля поплаву», тэлесерыял: 11 серыя.
**13.00** «Час гонару», серыял: 43 серыя.
**13.45** «Лепей быць прыгожай і багатай», камедыя, 1993 г., Польшча.
**15.25** «Сенсацыі ХХ стагоддзя», серыял: «Таямніца «Цыцэрона».
**16.15** «Кароль-вінароб», серыял: 12 серыя.
**17.00** «Ажыятаж вакол Басі», серыял: 3 серыя.
**17.30** «Маланка аркестр», рэпартаж, 2012 г., Беларусь.
**17.45** «Дзяўчаты з Аўшвіцу», дак. фільм, 2010 г., Польшча.
**18.35** «Аповеды выхаднага дня», цыкл маст. фільмаў: «Слабая вера», 1997 г.
**19.30** Над Нёмнам (тэлечасопіс).
**19.50** Калыханка для самых маленькіх: «Нодзі ў краіне цацак».
**20.00** Аўтастопам праз Беларусь.
**20.15** Невядомая Беларусь: «Шанц на «Новае жыццё», дак. фільм, 2009 г., Польшча.
**20.45** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.15** Суботні сеанс: «Цудоўны дзень», маст. фільм, 2005 г., Польшча.
**22.50** Невядомая Беларусь: «Гаспадар.», дак. фільм, 2008 г., Польшча.
**23.20** Лета з дэтэктывам: «Дэтэрмінатар», серыял: 7 серыя.
**00.05** Аб'ектыў.
**00.25** МакраФон: «Be Free–2008», фестываль: выступ гурта «Ulis».
**00.55** «Калыханка» ад Сашы і Сірожы.

## 21 ЛІПЕНЯ, НЯДЗЕЛЯ

**1 БЕЛАРУСЬ**

**07.20** Камедыя «Міміно» (СССР).
**09.00** Навіны.
**09.10** Арсенал.
**09.35** Камедыйны серыял «Калі ў вас няма цёткі» (Расія - Украіна). 3-я і 4-я серыі.
**11.45** Нашы.
**12.00** Навіны.
**12.10** Камедыйны дэтэктыў «Шукайце жанчыну» (СССР). 1-я і 2-я серыі.
**15.00** Навіны.
**15.15** Навіны рэгіёна.
**15.30** «Зона Х». Вынікі тыдня.
**16.00** Дакументальна-біяграфічны цыкл «Мая праўда « (Украіна).
**17.05** «Славянскі базар у Віцебску-2013».
**18.45** Прыгодніцкі баявік «Скарб нацыі: кніга таямніц» (ЗША).
**21.00** У цэнтры ўвагі.
**21.55** Журналісцкае расследаванне.
**22.30** Камедыйны трылер «Пасля чытання спаліць» (ЗША-Францыя- Вялікабрытанія).
**00.15** Камедыйны серыял «Калі ў вас няма цёткі» (Расія - Украіна). 3-я і 4-я серыі 1.

**ОНТ**

**07.00** АНТ прадстаўляе: «Нядзельная раніца».
**08.00** Нашы навіны.
**09.00** Нашы навіны.
**09.05** Нядзельная пропаведзь (з субтытрамі).
**09.20** «Смешарыкі. ПІН-код».
**09.35** «Шалапутныя нататкі».
**09.55** «Пакуль усе дома».
**10.50** «Фазэнда».
**11.25** Фільм «Закон зваротнага чараўніцтва».
**14.25** «КВЗ». Прэм'ер-ліга.
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** Прэм'ера. «Леанід Агуцін. Кропля шкадавання».
**17.20** «Браты Карамазавы». Шматсерыйны фільм.
**20.00** Контуры.
**21.05** «Вышка».
**23.10** Прэм'ера. Фільм «Цэзар павінен памерці».

**СТВ**

**07.35** Мультфільмы.
**07.55** Дзіцячы камедыйна-прыгодніцкі фільм «Па сакрэце ўсяму свету» («Беларусьфільм»). 1-я і 2-я серыі.
**10.00** Пазакласная гадзіна.
**10.20** Тэлебарометр.
**10.25** Пра мастацтва.
**10.55** Містычны баявік «Ван Хельсінг» (ЗША-Чэхія).
**13.25** Пляжны футбол. Еўраліга. Другі адборачны раўнд. Польшча - Беларусь. Прамая трансляцыя.
**14.55** Музычная камедыя «Формула каханння» (СССР).
**16.55** Футбол. Чэмпіянат Рэспублікі Беларусь. Прамая трансляцыя.
**19.15** Суперлато.
**20.25** Навіны надвор'я.
**21.00** «Спортлато 5 з 36».
**21.05** «КЕНО».
**21.10** Крымінальны баявік «Бумер. Фільм другі» (Расія).
**23.20** Меладрама (Беларусь).
**00.40** Спорт-кадр.

**2 БЕЛАРУСЬ**

**07.30** Мультфільмы.
**07.50** Прыгодніцкі фільм «Апошняе лета дзяцінства» (Беларусьфільм). 3-я серыя, заключная.
**08.55** Пазакласная гадзіна.
**09.15** Тэлебарометр.
**09.20** Пра мастацтва.
**09.50** Музычная камедыя «Пра беднага гусара замоўце слова» (СССР). 1-я і 2-я серыі.
**12.55** Камедыя «Нашы суседзі» («Беларусьфільм»).
**14.30** Авантурная камедыя «Залаты ключык» (Расія).
**16.55** Футбол. Чэмпіянат Рэспублікі Беларусь. Гомель - Дынама (Мінск). Прамая трансляцыя.
**19.15** Суперлато.
**20.25** Навіны надвор'я.
**21.00** «Спортлато 5 з 36».
**21.05** «КЕНО».
**21.10** Крымінальная драма « Бумер» (Расія).
**23.15** Моладзевая камедыя «Каханне і іншыя непрыемнасці» (Іспанія).
**00.55** Спорт-кадр.

**РОССИЯ**

**07.00** Фільм «Бабіна царства» (2012 г.).
**10.10** «Сам сабе рэжысёр».
**11.00** Весткі.
**11.15** «Смехапанарама».
**11.45** «У свеце жывёл».
**12.20** Фільм «Двое ў новай хаце».
**14.00** Весткі.
**14.15** «Таямніца гары мерцвякоў. Перавал Дзятлава».
**18.10** Прэм'ера. «Смяяцца дазваляецца». Гумарыстычная праграма.
**20.00** Весткі.
**20.30** Фільм «Чатыры поры лета. Працяг» (2011 г.).
**23.50** Фільм «Калі б я цябе кахаў» (2010 г.).

**НТВ**

**06.25** Серыял «Злачынства будзе раскрыта».
**08.00** Сёння.
**08.20** «Дзікі свет».
**08.50** «Іх норавы».
**09.25** «Ямо дома!».
**10.00** Сёння.
**10.20** «Дачны адказ».
**11.25** «Паедзем, паямо!».
**11.55** «Цуд тэхнікі».
**12.30** «Кулінарныя курсы: Італія. Тасканa».
**13.00** Сёння.
**13.15** Фільм «Камуналка».
**15.00** Прэм'ера. «Шануецe жыццё».
**15.40** «ГРУ: таямніцы ваеннай выведкі».
**16.30** Прэм'ера. Вострасюжэтны серыял «Дзяржаўная абарона-2».
**19.00** Сёння.
**19.25** Прэм'ера. Вострасюжэтны серыял «Дзяржаўная абарона-2» (працяг).
**23.55** Дэтэктыўны серыял «Глушэц. Працяг».

**МИР**

**05.00** Дакументальны фільм «Галівудскія пары».
**06.00** Мультфільм.
**07.05** Мастацкі фільм «Легенда выспы Двід».
**09.00** Навіны Садружнасці (беглы радок).
**09.10** Праграма «Даведнік».
**09.35** Праграма «Ежа».
**10.05** Праграма «Незорнае дзяцінства».
**10.30** Мастацкі фільм «Матчына каханне».
**13.15** Мастацкі фільм «9 месяцаў».
**15.00** Навіны Садружнасці (беглы радок).
**15.10** Ток-шоў «Яшчэ не разам».
**15.50** Тэлесерыял «Чэрчыль».
**20.40** Тэлесерыял «Маё жыццё».
**22.45** Мастацкі фільм «Матчына каханне».
**01.30** Мастацкі фільм «Зайздрасць багоў».
**03.55** Дакументальны фільм «З нагоды. Камчатка. Жыццё на вулканах».

**БЕЛСАТ tv BELSAT**

**07.00** Аб'ектыў.
**07.15** Невядомая Беларусь: «Гаспадар.», дак. фільм, 2008 г., Польшча.
**07.45** Над Нёмнам (тэлечасопіс).
**08.00** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**08.10** Казкі для дзетак: «Матыльда», «Мядзведзікі», «Нодзі ў краіне цацак».
**08.40** «Букаландыя», мультсерыял для дзяцей: 3 серыя.
**09.05** «Піпі Доўгаяпанчоха», серыял: 14 серыя.
**09.35** «Эміль з Лённэбэр'і», серыял: 7 серыя.
**10.00** «Тры шалёныя нулі», серыял: 2 серыя.
**10.25** Басанож па свеце (спазнаваўчая праграма).
**10.50** «Глыбокая вада», серыял: 6 серыя.
**11.40** «Таямніцы Ватыкану», дак. серыял: 7 серыя.
**12.10** «Цудоўны дзень», маст. фільм, 2005 г., Польшча.
**13.45** «Дзяўчаты з Аўшвіцу», дак. фільм, 2010 г., Польшча.
**14.35** «Таямніца крэпасці шыфраў», тэлесерыял: 7 серыя.
**15.25** «Акварыум», серыял: 2 серыя.
**16.15** «Праведнікі», тэлесерыял: 7 серыя.
**17.05** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**17.20** Без рэтушы: «Атамны Астравец», дак. фільм, 2009 г., Беларусь.
**17.40** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**18.05** Чорным па белым (культурніцкая праграма).
**18.35** «Апошняя кніга Рышарда Капусьціньскага», дак. фільм, 2008 г., Польшча.
**19.35** Гарадзенскія вандроўкі Станіслава Пачобута.
**19.45** Калыханка для самых маленькіх: «Нодзі ў краіне цацак».
**20.00** Невядомая Беларусь: «Курапаты – шлях сумлення», дак. фільм, 2008 г., Беларусь.
**20.30** Побач з намі (зборнік рэпартажаў).
**20.45** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**21.00** Размовы эксперта (інфармацыйна-аналітычная праграма).
**21.15** Фільматэка майстроў: «Парнаграфія», маст. фільм, 2003 г., Польшча.
**23.10** Лета з дэтэктывам: «Мент», дэтэктыўны серыял: 7 серыя.
**00.05** Вагон (сатырычна-забаўляльная праграма).

# Шаноўныя чытачы!

**На жаль, газету «Новы Час» немагчыма набыць у шапіках або крамах. Няма нас і ў дзяржаўнай сістэме распаўсюду Белпошты. Але можна падпісацца на «Новы час» і кожны тыдзень атрымліваць газету.**

Падпісацца можна на любую колькасць месяцаў, афарміўшы банкаўскі ці паштовы перавод і накіраваўшы копію плацёжнага дакументу на адрас рэдакцыі. (Глядзіце ўзоры квітанцый). Нашы рэквізіты: **рахунак 3012741108019 у аддзяленні №539 ОАО «Белінвестбанка», код банка 153100739. Адрас банка: 220004, Мінск, вул. Калектарная, 11. Адрас рэдакцыі: 220113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234.**

Акрамя таго, падпісацца можна ў офісе і ў нашых рэгіянальных прадстаўнікоў.

| | |
|---|---|
| Гомель | (8 029) 697 82 75 Аляксандр; |
| Магілёў | (8 029) 930 79 22 Міхась; |
| Мінск | (8029) 178 31 68 Вольга; |
| Бабруйск | (8029) 628 75 01 Вольга; |
| Слуцк | (8029) 364 42 60 Зінаіда. |

## Паважаныя чытачы!

Кошт аднаго нумара газеты — 2000 руб., аднаго месяца — 8000 руб. Дзякуй вам за разуменне і падтрымку!

Запрашаем да супрацоўніцтва распаўсюджвальнікаў газеты ва ўсіх рэгіёнах Беларусі.

**Даведка па тэл. +375 29 986 38 05**

БЕЛПОЧТА ф. ПС 112

ЭЛЕКТРОННЫЙ ДЕНЕЖНЫЙ ПЕРЕВОД

№ ______ (вход, по карте отправки)

ВЫРУЧКА ☐ НАЛОЖЕННЫЙ ПЛАТЕЖ ☐

(сумма цифрами) (сумма прописью)

ПОЛУЧАТЕЛЬ___ Г-та «Новы час», р/с 3012741108019 отд. №539 ОАО «Белинвестбанк», код 153100739, УНН 190790926

КУДА 220004, г. Минск, ул. Коллекторная, 11

(почтовый код, адрес получателя, телефон)

ОТПРАВИТЕЛЬ ____________

(почтовый код, адрес отправителя, телефон)

АДРЕС ____________

Доставка ☐ уведомление ☐ простое ☐ заказное ☐ электронное

(назначение платежа)

(письменное сообщение)

Отметки отделения почтовой связи места приема:
(почтовый код, оттиск контрольно-переводной печати, кол. шт.)
№ перевода по ф. 5 ____________
Время приема _______ ч. _____ мин.
Подпись

# Для тых, хто прымае рашэнні!

Новы Час

**www.novychas.info**

КВИТАНЦИЯ

ЧИУП «Час навінаў»
(получатель платежа)
отд. №539 ОАО «Белинвестбанк»
(наименование банка)

Счет получателя 3012741108019 Лицевой счет Код 739

УНП* 190790926

(фамилия, имя, отчество, адрес)

| Вид платежа | | | Дата | Сумма |
|---|---|---|---|---|

Период подписки указывает абонент

Плательщик

Пеня ________
Всего ________

Кассир

АНАЛІЗ

# МУРСІ, ВЯРНІСЯ!

Алег НОВІКАЎ

**На думку шматлікіх экспертаў, Захад павінен быў асудзіць вайсковы пераварот у Егіпце.**



Вялізарны натоўп, салют, шчаслівы твары на плошчы Тахрыр. Гэтыя карцінкі дамінавалі ў рэпартажах з Егіпта 4 ліпеня, калі стала вядома пра арышт прэзідэнта Мухамеда Мурсі. Але ўсю апісаную пастараль парушаў адзін непрыемны факт: Мурсі быў дэмакратычна абраным лідарам дзяржавы, а яго прымусовая адстаўка, як ні круці, — антыканстытуцыйны акт, замах на асновы дэмакратыі.

У выніку экспертная грамадскасць на Захадзе раскалолася. Адны вітаюць путч. Некаторыя дыпламаты нават пачалі называць падзеі ў Егіпце не «пераварот», а «факт, які адбыўся». У якасці доказаў ужываецца шмат тэорый. Так, «Guardian» спісала ўсё на егіпецкія асаблівасці, недаступныя іншаземцам: «Напэўна, выглядае недарэчным тое, што ў Каіры пратэстоўцы просяць войска выратаваць іх ад таго самага палітыка, які не так даўно выратаваў іх ад войска. Але лічыцца, што гэта такая егіпецкая іронія. Усе рэвалюцыі выпрацоўваюць свае ўласныя Realpolitik. Што да дэмакратыі, то часам патрэбныя салдаты, якія б выступалі ў якасці абароны ад абраных палітыкаў, што парушаюць свае абяцанні», — гаворыцца ў артыкуле.

Нямецкая «Die Welt» трактуе сітуацыю з дапамогай канцэпцый альтэрнатыўнай гісторыі: «Цяперашнія падзеі ў Егіпце ілюструюць тое ж самае, калі б насельніцтва Расіі ў 1918 годзе паўстала супраць роспуску Устаноўчага сходу бальшавікамі, а Ленін і яго таварышы аказаліся выгнаныя з улады».

Аднак ёсць і тыя, хто лічыць пераварот трагічнай памылкай, адказнасць за якую нясуць таксама егіпецкія дэмакраты, што віталі мяцеж вайскоўцаў.

«Tageszeitung» адзначае: «Натуральна, ёсць шмат прычын радавацца, што Мурсі «сышлі». Непатызм, ісламізацыя шматлікіх сфер грамадства, падман выбаршчыкаў і, натуральна, эканамічны калапс — шматлікія егіпцяне жывуць сёння горш, чым у часы Мубарака. Мухамед Мурсі раскалоў грамадства. Ён быў глухі да патрэбаў шматлікіх егіпцян, якія не падзялялі яго ісламісцкія опцыі. Нарэшце, ён быў проста некампетэнтны. Ёсць шмат рэчаў, якія Мурсі рабіў кепска. Менавіта таму першая рэакцыя на яго сыход — радасць. Аднак у роце адчуваецца горкі прысмак. Мурсі — першы ў егіпецкай гісторыі прэзідэнт, які быў абраны дэмакратычна, атрымаўшы абсалютную большасць галасоў».

На думку выдання, словы пра тое, што Мурсі не абапіраўся на большасць праз год пасля абрання прэзідэнтам, — «кепскі аргумент». «У час кадэнцыі нават самага паспяховага ўраду, — піша газета, — бываюць моманты, калі ён губляе давер большасці. Аднак у той жа Германіі ніхто не заклікае ў гэты момант Бундэсвер арганізаваць пераварот. Усе разумеюць, што трэба пачакаць наступных выбараў, каб спакойна прагаласаваць. На жаль, егіпцяне тэст на павагу да асноўных прынцыпаў дэмакратыі не прайшлі, вырашыўшы, што ўсё робіцца на барыкадах і з дапамогай гвалту», — рэзюмуе «Tageszeitung».

Крытыкі перавароту ўпэўненыя, што дэмакратычныя выбары не адбудуцца ў Егіпце цяпер вельмі доўга. Увагу шмат каго прыцягнула шакуючая перадавіца амерыканскай газеты «Wall Street Journal», галоўны пасаж у якой наступны: «Егіпцяне маглі б быць вельмі задаволеныя, калі б іх новыя генералы аказаліся падобнымі да чылійскага генерала Аўгуста Пінмачэта, які захапіў уладу ў сітуацыі поўнага хаосу, аднак прыцягнуў у сваю каманду ліберальных рэфарматараў і стварыў падставы для пераходу да дэмакратыі». Праўда, большасць экспертаў не вераць у тое, што Егіпет стане новай Чылі. Хутчэй, краіне цяпер пагражае лёс Алжыру, дзе 20 гадоў таму адбылося нешта падобнае. Вайскоўцы для барацьбы з ісламістамі ўвялі вайсковае становішча. Пагрозу ісламістаў удалося нейтралізаваць, што стала апраўданнем для ўстанаўлення ў краіне доўгатэрміновай аўтакратыі.

Французская газета «Liberation» звяртае ўвагу на падвоеныя стандарты заходніх сталіц. «Гаворка ідзе пра парушэнне прынцыпаў палітычнай філасофіі ЕС і ЗША, якія адназначна патрабуюць асудзіць coup d'Etat. Уявіце, што будзе, калі мы будзем падтрымліваць вайсковы пераварот у кожнай краіне, дзе праз эканамічныя праблемы армія ставіць ультыматум ураду і арыштоўвае прэзідэнта? Так ці інакш, выкананне адміністратыўных функцый вымагала ад ісламістаў добра або кепска гуляць у дэмакратыю, прымушала іх прымаць правілы гульні, калі для вырашэння канфліктаў галоўным інструментам ёсць дыялог, а не зброя. Вайсковы пераварот знішчыў веру ў саму ідэю дэмакратыі».

Блізкая да сацыял-дэмакратаў нямецкая газета «Tagesspiegel» выкарыстоўвае марксісцкую методыку, шукаючы імператыў учынкаў егіпецкіх вайскоўцаў: «Не верце разадзьмутым нацыянальным героям, якімі выстаўляюць сябе егіпецкія вайскоўцы. Генералы турбуюцца пра інтарэсы бізнэс-імперыі, якая дае 40 працэнтаў аб'ёму агульнай вытворчасці ў Егіпце. Яны з'яўляюцца найбуйнейшымі землеўладальнікамі. Яны вырабляюць усё — ад бутэляванай вады, халадзільнікаў да аўтамабіляў і тэлевізараў. Таму яны не зацікаўленыя, каб нехта замахваўся на іх укараненыя прывілеі і жадаюць захоўваць у недатыкальнасці свае схемы раскрадання дзяржавы».

Самая вялікая прэтэнзія да вайскоўцаў з боку журналістаў — рэабілітацыя ісламістаў. Гэтага тэзісу трымаецца французская «Le Monde»: «Наўрад ці ў бліжэйшы час сацыяльна-эканамічная сітуацыя значна палепшыцца. Таму правядзенне вольных выбараў у будучыні зноў стварае пагрозу для вяртання «Братоў-мусульман», якім пераварот дазволіў цалкам не згубіць твар… Было б нерэалістычна думаць, што «Браты-мусульмане» знікнуць з палітычнай арэны. Яны дасюль застаюцца палітычнай сілай, якая лепш за іншых інтэграваная ў сацыяльныя структуры і мае падтрымку з боку вялікай часткі насельніцтва».

Шмат хто адзначае парадокс, калі лібералы вітаюць дэмакратычна абранага прэзідэнта і вяртанне да ўлады вайсковай клікі, якая 60 гадоў была апорай аўтакратычнага рэжыму. У сваю чаргу, ісламісты патрабуюць дэмакратычных парадкаў. Але шмат хто баіцца, што ісламісты не будуць выступаць як абаронцы дэмакратыі. На іх думку, дыскусія ўнутры руху «Браты-мусульмане» будзе сыходзіць з тэзісу пра тое, што дэмакратыя, у якую спрабаваў гуляць Мухамед Мурсі, і іслам — рэчы несумяшчальныя. Такая пастаноўка пытання пагражае ўзмацненнем фракцыі радыкалаў, якая будзе выступаць за тое, каб у выпадку вяртання да ўлады адразу ўвесці шарыят або паспрабаваць імпартаваць іранскую мадэль.

Праўда, такая фармулёўка спрэчная. Шматлікія выданні мяркуюць, што палітычнаму ісламу нанесены сур'ёзы іміджавы ўдар. «Іслам больш не рашэнне», — піша іншы аўтар у той жа «Le Monde», перарабляючы славуты галоўны лозунг ісламістаў «Іслам — гэта рашэнне» і нагадвае, што «ісламісты скампраметавалі сябе не дзе-небудзь, а ў галоўнай краіне арабскага свету».

Прызнаючы абгрунтаванасць аргументаў крытыкаў учынкаў егіпецкіх вайскоўцаў і грамадзянскай супольнасці, якая падтрымала путч, трэба прызнаць, што ніякай канструктыўнай альтэрнатывы яны не прапануюць. Лозунг, што трэба вызваліць Мухамеда Мурсі і вярнуць яму пасаду, яўна ўтапічны. Выхад з крызісу ў Егіпце трэба шукаць сыходзячы з рэалій, якія склаліся ў краіне пасля 4 ліпеня.



## ЯНЫ ПРА НАС. ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

Беларускія дзяржаўныя СМІ сфакусавалі ўвагу насельніцтва не на сутнасці падзей, якія адбываюцца ў Егіпце, а на жахах народных бунтаў, рэвалюцый і пераваротаў. Безапеляцыйна сцвярджаецца, што егіпецкі народ «ужо наеўся рэвалюцыямі». Жывапісна паказваюцца сутычкі, пагромы і згвалтаванні жанчын... З апошнім наогул адбываецца нешта дзіўнае. Ні адзін з сусветных інфармацыйных каналаў не паведаміў пра хвалю згвалтаванняў у перыяд беспарадкаў у Каіры. Пра здзек з жанчын паведамілі толькі беларускія СМІ. Невядома, на якую і на чыю інфармацыю яны абапіраліся, але цалкам зразумела, якую мэтавую аўдыторыю беларускі агітпроп меў на ўвазе. Беларусак палохаюць рэвалюцыяй як сацыяльнай з'явай, здольнай пазбавіць іх цяперашняга дастатку і паставіць пад пагрозу іх гонар і нават жыццё... Разгадка простая: Лукашэнка баіцца, што рана ці позна на вуліцах і плошчах Мінска таксама з'явяцца танкі. І не дзеля ўдзелу ў парадзе.

**«Politobzor» (Расія)**

Усе вядомыя абставіны справы даюць падставы мясцовым праваабаронцам і сваякам зніклага журналіста (Завадскага) сцвярджаць, што ўлада мае самае непасрэднае дачыненне да таго, што здарылася. Наўрад ці афіцэры спецназа сталі б па сваёй ініцыятыве спачатку высочваць, а потым выкрадаць і забіваць чалавека. Нават калі гэта так, чаму не вядома месца пахавання, не праведзена эксгумацыя і не высветленыя абставіны смерці, па гэты дзень пытаюцца сваякі зніклага і праваабаронцы, закідваючы лістамі з нагоды падаўжэння следства розныя інстанцыі. Па адной з версій, прычынай забойства журналіста магло стаць тое, што ён меў інфармацыяй аб пастаўках з Беларусі зброі чачэнскім баевікам.

**«Независимая газета» (Расія)**

Наўрад ці выступленні беларускіх ІП супраць увядзення правілаў Мытнага саюза здольныя змяніць сітуацыю. Сертыфікаваць тавары і здабываць закупачныя дакументы гандлярам шырспажыву рана ці позна ўсё ж прыйдзецца. Акрамя таго, адзінства меркаванняў на гэты конт няма і ў лідараў грамадскіх прадпрымальніцкіх арганізацый. Некаторыя ўжо заявілі, што вылучаюць толькі эканамічныя прэтэнзіі і нават асцерагаюцца, што пратэст можа падтрымаць беларуская апазіцыя. Увогуле, не шмат хто ў бізнэс-асяроддзі Беларусі гатовы стаць «рухаючай сілай рэвалюцыі»

**«Deutsche Welle» (Германія)**

Асноўная рызыка мадэрнізацыі звязана з тым, што працягваецца сусветны крызіс, які пакідае ўсё менш магчымасцяў для захопу новых рынкаў — нават пры ўмове паспяховай мадэрнізацыі нацыянальнай прамысловасці. Гэта стварае пагрозу ўсёй беларускай сацыяльна-эканамічнай мадэлі, што павінна трансфармавацца наўпрост у працэсе вымушанай інтэграцыі ў сусветную эканамічную сістэму, якая сама перажывае хваравітую трансфармацыю. Адсюль пагрозы ўзмацнення адтоку кваліфікаваных кадраў за межы Беларусі і зніжэння якасці жыцця насельніцтва.

**«REGNUM» (Расія)**

Значная частка гараджан свята (Дзень Незалежнасці) відавочна ігнаруе, адпраўляецца на прыроду ці займаецца сваімі справамі. Для многіх сёлетні Дзень Незалежнасці — проста выходны. Эстэтыка арганізаваных уладамі свят выклікае нараканні значнай часткі беларусаў. Яны задаюцца пытаннямі: каму патрэбны парад, калі яго неаднаразовыя рэпетыцыі не толькі перашкаджалі звычайнаму жыццю сталіцы Беларусі па вечарах і начах, але сапсавалі дарожнае пакрыццё на галоўных магістралях горада? У колькі абышлася падаткаплацельшчыкам дэманстрацыя ваеннай і эканамічнай моцы? Ці выпадкова Дзень Незалежнасці Беларусі супаў з Днём нараджэння Франца Кафкі?

**«RFI» (Францыя)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### РАСІЯ. МАНАРХІСТЫ ХАЦЕЛІ Б ПРЫТУЛІЦЬ СНОЎДЭНА Ў ІМПЕРЫІ

Заснавальнік расійскай Манархісцкай партыі алігарх Антон Бакаў прапанаваў Эдварду Сноўдэну стаць грамадзянінам Расійскай Імперыі. Гаворка не ідзе пра імперыю ў сапраўдным сэнсе гэтага слова. Імперыя была выключна на словах адноўленая Бакавым з сябрамі два гады таму. Каб ніхто не сказаў, што Расійская Імперыя — гэта віртуальная дзяржава, Бакаў набыў пад яе адзін з атолаў у Ціхім Акіяне. Напэўна, туды і адправіцца Эдвард Сноўдэн, калі экс-супрацоўнік ЦРУ пагодзіцца перайсці ў падданыя імперыі. Праўда, пытаць у яго ніхто і не збіраецца. У пастанове «Аб выратаванні Сноўдэна Эдварда», апублікаванай на сайце Расійскай Імперыі, гаворыцца катэгарычна: а) «Адправіць выратавальную экспедыцыю ў транзітную зону аэрапорта Шарамецьева», б) «надаць Сноўдэну Эдуарду Леанідавічу падданства Расійскай Імперыі».

**Паводле расійскай прэсы**

### ФРАНЦЫЯ. БАСКІ І ВЕЛАСІПЕДЫ

Баскі, якія жывуць у Францыі (для даведкі: іх тут каля 250 тысяч) перажываюць няпросты этап у гісторыі камуны. Упершыню за дзесяцігоддзі сярод веласіпедыстаў, якія прадстаўляюць каманду ад фірмы «Euskaltel» (тэлеаператар у Краіне Баскаў) на сусветна вядомай велагонцы «Тур дэ Франс», няма ніводнага этнічнага баска. Дырэкцыя кампаніі вырашыла зрабіць стаўку на «варагаў», запрасіўшы галоўным чынам іспанцаў і нават грэка. Новую кадравую палітыку кіраўніцтва кампаніі апраўдае пагрозай таго, што каманда з-за слабых выступаў можа згубіць інтарэс рэкламадаўцаў і, адпаведна, не мець бюджэту, які патрэбны для каманд такога ўзроўню. Такі падыход выклікаў вялікую дыскусію сярод французскіх баскаў. У выніку



большасць вырашыла падтрымаць «Euskaltel» нават у такім фармаце. Як і ў мінулыя гады, уздоўж велатрасы «Тур дэ Франс» можна пабачыць людзей, якія махаюць нацыянальнымі басксімі сцягамі, вітаючы гоншчыкаў з «Euskaltel». Нацыяналісты знайшлі як мінімум два аргументы на карысць такой пазіцыі. Па-першае, у моладзевым рэзэрве «Euskaltel» шмат баскаў маюць шанс заявіць пра сябе ў будучым, калі «Euskaltel» працягне выступаць у «Тур дэ Франс». Па-другое, легіянеры, выступаючы за каманду з рэнамэ каманды баскскіх нацыяналістаў, павіны будуць так ці інакш цікавіцца баскскай культурай і палітыкай. Магчыма, нехта з іх стане аматарам нашай традыцыі, кажуць баскі з французскай часткі Краіны Баскаў, і дадаюць: «Баскскі праект павінен быць адкрытым».

**Паводле іспанскай прэсы**

### ІЗРАІЛЬ. ЦІ ПЕРАПІШУЦЬ ГІМН?

Дэпутацкія групы, якія прадстаўляюць арабскую меншасць у ізраільскім парламенце, выступілі з заклікам перапісаць цяперашні гімн дзяржавы, які, дарэчы, афіцыйны статус атрымаў толькі ў 2004 годзе, хаця дэ-факта быў гімнам з моманту стварэння дзяржавы Ізраіль. У ізраільскіх грамадзян арабскага паходжання (іх, дарэчы, каля 20 працэнтаў у краіне) шмат прэтэнзій да тэксту. На думку ініцыятараў перапісвання гімну, аўтар тэксту Атыква (на іўрыце «надзея») праслаўляе выключна яўрэйскі народ, хаця аб'ектыўна сярод грамадзян шмат асобаў іншай нацыянальнасці. Ізраільцяне арабскага паходжання прапануюць выправіць такую дыскрымінацыйную недарэчнасць.

**Паводле французскай прэсы**

### ВЕНГРЫЯ. ТЫТУНЬ ТАКСАМА ПАВІНЕН БЫЦЬ НАЦЫЯНАЛЬНЫМ

Венгерскія правыя разгарнулі кампанію «За нацыянальны тытунь». Яна тычыцца лёсу дзяржаўнай кампаніі, якая мае манапольныя правы на продаж цыгарэт у краіне. Не так даўно па прапанове партыі вырашана прадаць кампанію. Шматлікія венгры пабачылі ў гэтым карупцыйную здзелку. Быццам, нехта падмазаў дэпутатаў, каб тыя пагадзіліся прадаць манаполію, якая, паводле падлікаў, стабільна прыносіць штогод 10 працэнтаў прыбытку. Нацыяналісты ідуць яшчэ далей, падазраючы, што кампанію прададуць замежнікам. Таму яны і пачалі незвычайную акцыю. Яе ўдзельнікі апранаюць майкі з лагатыпам кампаніі «За нацыянальны тытунь!», збіраюцца ў групы на вуліцах і дэманстратыўна паляць. У Будапешце ім удалося вывесці на цэнтральную Тэатральную плошчу некалькі тысяч чалавек, аднак, па словах назіральнікаў, натоўп курыльшчыкаў выглядаў хутчэй камічна, чым пераканаўча.

**Паводле нямецкай прэсы**

СПОРТ І ПАЛІТЫКА

# ТЭНІС І НЕЗАЛЕЖНАСЦЬ ШАТЛАНДЫІ

*Алег НОВІКАЎ*



**Як паўплывае перамога этнічнага шатландца Эндру Мюрэя на Уімблдонскім турніры на вынік рэферэндуму аб незалежнасці Шатландыі? Гэта пытанне задаюць не толькі звычайныя грамадзяне, але і палітолагі.**

Роўна 77 гадоў чакала Брытанія гэтага дня. Дня, калі брытанскі тэнісіст зноў стане ўладальнікам галоўнага трафею Уімблдону. І вось 7 ліпеня Эндру Мюрэй нарэшце спраўдзіў надзеі Вялікабрытаніі. «Слабы ўдар Новака (суперніка Мюрэя) выклікаў нябачаную па моцы выбухную хвалю, якая пранеслася праз гатэлі, бары і плошчы, на якіх былі размешчаны вялікія экраны», — напісаў адзін з англійскіх журналістаў.

Аднак у моры пераможных крыкаў і тостаў гучаць дзіўныя галасы. «Пачакайце, што вы робіце? Якое дачыненне мае да Вялікабрытаніі Эндру Мюрэй? Ён жа шатландзец».

Сапраўды, Эндру нарадзіўся ў Глазгу ў 1987 годзе. Яшчэ пару гадоў таму на гэты пункт біяграфіі не звярнулі б увагі. Але не цяпер. Справа ў тым, што на прызначаным на наступны год плебісцыце шатландцы павіны вызначыцца — быць ці не Шатландыі незалежнай? І, відавочна, трыумф суайчынніка можа ўзняць шансы шатландскіх незалежнікаў.

Ёсць тут і дадатковы аспект. Так склалася, што большасць зорак шатландскага спорту не ў захапленні ад незалежніцкіх канцэптаў. Славуты шатландскі веласіпедыст Крыс Хой адкрыта выступіў супраць абвяшчэння суверэнітэту бацькаўшчыны. «Я адначасова шатландзец і брытанец, што не супярэчыць адно другому. Калі спартсмены жадаюць быць лепшымі, яны не павінны дазволіць уцягнуць сябе ў палітыку», — сказаў Крыс падчас цырымоніі атрымання залатога медаля на Лонданскай алімпіядзе мінулага года.

Алекс Фергюсон, які да апошняга сезону трэніраваў «Манчэстэр Юнайтэд», пайшоў далей: «Я і яшчэ 800 тысяч шатландцаў, якія жывуць у Аб'яднаным Каралеўстве па-за межамі Шатландыі, — не іншаземцы, а сябры вялікай сям'і». У дадатак ён ахвяраваў цэлых 500 фунтаў у фонд кампаніі «Better Together» («Разам лепш»), якая агітуе шатландцаў галасаваць супраць незалежнасці.

А вось Эндру Мюрэй, быццам, для нацыяналістаў свой чалавек. Практычна ў кожным інтэрв'ю ён падкрэслівае сваё шатландскае паходжанне. Не дзіўна, што шатландскія нацыяналісты па поўнай праграме паспрабавалі выкарыстаць трыумф Мюрэя. Галоўную ролю ў інструменталізацыі спартсмена прыйшлося выканаць асабіста шатландскаму прэм'еру Алексу Салманду. Ён прынёс на фінальны матч вялізарны шатландскі сцяг, што, дарэчы, забаронена правіламі стадыёну (пасля стала вядома, што «Saltire» (так называюць сцяг Шатландыі) пранесла на трыбуны жонка прэм'ера. «Эндру — фантастычны шатландскі спартсмен і заслугоўвае, каб у яго гонар махалі сцягам», — сказаў пазней Салманд у інтэрв'ю BBC. Палітык таксама дадаў, што марыць пра тое, каб на Алімпіядзе 2016 года Шатландыя мела сваю каманду.

Самае цікавае, што не меншы энтузіязм ад перамогі Мюрэя атрымаў Дэвід Кэмеран, прэм'ер Вялікабрытаніі ад партыі кансерватараў, якая рашуча выступае супраць шатландскага сепаратызму. Падчас гульні ён знаходзіўся ў адной ложы з Салмандам і таксама вельмі эмацыйны перажываў за Эндру. А літаральна пасля заканчэння гульні ўвогуле заклікаў надаць спартсмену рыцарскі тытул. Калі каралева прыслухаецца да прэм'ера, то Эндру Мюрэй, якому толькі 26 гадоў, будзе самым маладым чалавекам у гісторыі, якога пасвяцілі ў рыцарскі сан. Праўда, сам спартсмен ставіцца да гэтага вельмі іранічна.

Наўрад ці Кэмеран сімулюе сімпатыю да шатландскага тэнісіста. Па-першае, ён сапраўды вядомы як вялікі аматар тэнісу. Па-другое, поспех шатландца пад брытанскім сцягам цэментуе міф пра вялікую дружную сям'ю народаў Альбіёну. «Яго каласальная перамога была гістарычнай. Шатландзец, якога віталі мільёны англічан, зрабіў больш чым хто для замацавання адзінства нацыі і для таго, каб кожны ганарыўся Вялікабрытаніяй», — піша блізкае да кансерватараў выданне «Daily Mail».

З тым, што шатландскія спартсмены ў складзе брытанскай зборнай працуюць на міф пра адзінства Вялікабрытаніі, цяжка паспрачацца. Падчас лонданскай алімпіяды мінулага года шатландцы, што выступалі ў складзе зборнай Вялікабрытаніі, заваявалі 12 медалёў з 65 здабытых брытанцамі (сем з якіх залатыя). У той час апытанні зафіксавалі падзенне папулярнасці ідэі незалежнасці ў Шатландыі прыкладна на 4 працэнты.

Але спорт не вельмі ўплывае на палітычныя настроі. Напрыканцы 1970-х гадоў шатландская футбольная зборная лічылася адной з самых моцных камандаў у свеце. Аднак гэта не выклікала нацыяналістычных сентыментаў у горцаў. На рэферэндуме 1979 года яны завалілі ідэю стварэння шатландскага парламенту. Увогуле, шатландскі спартовы нацыяналізм — дастаткова стары феномен. Так, зборныя Англіі і Шатландыі па футболу існуюць з канца XIX стагоддзя. Аднак, як было сказана вышэй, на палітычны працэс гэта ўплывала вельмі ўскосна.

З іншага боку, тэндэнцыі могуць мяняцца. Газеты адзначаюць, што ў Шатландыі па слядах турніру на Уімблдоне ўзнік так званы «фактар Мюрэя». Шатландцы ганарацца перамогай земляка, згадваючы, як у выпадку правалаў лонданская прэса называла Мюрэя шатландцам. Палітызацыя спорту дае Салманду шанец выкарыстаць у палітычных мэтах гульні Брытанскай Садружнасці, якія летам наступнага года, за два месяцы да рэферэндуму, пройдуць у Глазга. На Гульнях Шатландыя будзе прадстаўленая асобнай камандай, што гарантуе выбух патрыятычных настрояў.

У дадатак на чэрвень наступнага года прыходзіцца 700-я гадавіна славутай бітвы пры Бэнокберне (адна з найважнейшых бітваў англа-шатландскіх войнаў XIII–XVI стагоддзяў). Разгром англійскага войска пад Бэнокбернам забяспечыў аднаўленне на нейкі час незалежнасці Шатландыі. Відавочна, што юбілей таксама стане падставай для буйной піяр-кампаніі ў падтрымку незалежнасці. Такім чынам, прапорцыі ў палітычных настроях яшчэ можна змяніць. Нагадаем, што цяпер толькі 38 працэнтаў шатландцаў гатовыя сказаць «так» незалежнасці. Аднак тое, што 12–14 працэнтаў не вызначыліся з выбарам, дазваляе нацыяналістам спадзявацца на перамогу.

Напрыканцы хацелася б даць слова тым, хто асуджае спробы выкарыстаць Эндру Мюрэя ў палітычных гульнях. «Давайце пазбаўляцца нацыянальных забабонаў. Тэніс — гэта, як правіла, індывідуальны від спорту. Мюрэй перамог перш за ўсё для сябе. Ён не нацыянальны герой, паколькі быць героем — значыць праявіць нейкі альтруізм у імя калектыву…» — піша газета «Guardian».

З такім падыходам не пагодзяцца не толькі шатландскія нацыяналісты і брытанскія кансерватары, аднак і ірландцы. На ірландскіх інтэрнэт-форумах вельмі папулярная тэорыя ірландскага паходжання Мюрэя, паколькі яго прозвішча найбольш сустракаецца сярод жыхароў Ірландыі.

ПАДРАБЯЗНАСЦІ

# РУМЫН ПАДЗЯЛІЎ УКРАІНУ

Алег НОВІКАЎ

**Звычайны ўкраінскі гопнік падзяліў украінскую супольнасць і вызначыў новы вектар развіцця краіны.**



У судзе Шаўчэўнкаўскага раёна сталіцы Украіны пачаўся працэс над Вадзімам Цітушкам па мянушцы «Румын», які, па версіі пракурора, збіў (па версіі адваката, проста штурхнуў) журналістку падчас апазіцыйнай акцыі «Паўстань, Украіна». Аднак інтарэс грамадства да працэсу над Румынам каласальны. Грамадства падзялілася на палярныя лагеры — прыхільнікаў Вадзіка і яго ненавіснікаў.

Вадзім Цітушка — 20-гадовы жыхар горада Белая Царква. Калі меркаваць па яго занятку, лексікону і стылю жыцця, Вадзім нагадвае кананічнага гопніка. Праўда, Вадзік мае дачыненне да палітыкі. Свой ангажэмент у палітычны працэс ён сам апісвае так: «Прыходзіцца ўдзельнічаць у мітынгах, таму што займаюся спортам, але паколькі ніхто за спорт не плаціць, таму даводзіцца займацца аховай».

Менавіта аховай займаўся Вадзім і 18 мая, калі ў Кіеве амаль паралельна прайшлі акцыі апазіцыі «Паўстань, Украіна!» і «Антыфашысцкі мітынг», арганізаваны Партыяй рэгіёнаў. Вадзіма і «брыгаду» такіх жа хлопцаў нанялі ахоўваць трыбуну на мітынгу Партыі рэгіёнаў. Калі «ахоўнікі» рушылі ў прызначанае месца, каб атрымаць ганарар, яны выпадкова сутыкнуліся з актывам партыі «Свабода», вядомым сваім ваяўнічым норавам. Завязалася бойка, падчас якой пад руку Вадзіму падвярнулася журналістка апазіцыйнага 5-га канала Вольга Сніцарчук і яе аператар.

Інцыдэнт пра збіццё Вольгі абляцеў СМІ. Журналісцкая карпарацыя Украіны пабачыла тут выразны замах на свае правы з боку Партыі рэгіёнаў, якая тэрарызуе прэсу рукамі гопнікаў. У Вярхоўнай Радзе нават стварылі камісію па расследаванні бойкі. Адначасова на Румына завялі справу і цяпер судзяць паводле двух артыкулаў КК — хуліганства і перашкода працы журналістаў.

Вялізарны бум у апазіцыйнай прэсе, здаецца, не пакідаў шансаў нашаму герою. Па сутнасці, Вадзіма, які, напэўна, ніколі ў жыцці не бачыў той 5-ы канал, проста падставілі — прымусілі адказваць за бяздзейнасць міліцыі.

Аднак нечакана яго фігура аказалася вельмі прываблівай у вачах шматлікіх суайчыннікаў, якія пачалі нізавую кампанію ў абарону гопніка. Толькі ў сацсетцы ВКонтакте груп, прысвечаных Румыну, ажно шэсць (характэрна, што груп, створаных у падтрымку Вольгі Сніцарчук у сацсетках не выяўлена). Аргументацыя «румынафілаў» прыкладна такая: «У падлеткавым узросце Цітушка здзейсніў крадзеж, за што атрымаў умоўны тэрмін. Для сапраўдных пацаноў «не западло» і рэальны тэрмін адматаць».

Аднак у гэтай размытай масы фанатаў Вадзіма знайшоўся авангард — кагорта антыаранжавых журналістаў, палітолагаў і дэпутатаў ад Партыі рэгіёнаў. Яны склалі нешта накшталт маніфеста ў абарону спартсмена. «Тое, што адбылося 18 мая ў Кіеве на заключным гала-канцэрце «Паўстань, Украіна!» (а, уласна, не адбылося НІЧОГА) стала прадметам палітычных спекуляцый і масавага маніпулявання грамадскай думкай з боку палітыкаў ад апазіцыі і асобных апазіцыйных журналістаў. Хлусня, паклёп, танныя інсцэніроўкі могуць выкарыстоўвацца і ў далейшым. Свой правал айчынная апазіцыя спісала на 20-гадовага жыхара Белай Царквы Вадзіма Цітушку, абвінаваціўшы яго ў жорсткім гвалце ў дачыненні да журналістаў у цэнтры Кіева. На самай справе — гэта цынічная хлусня», — гаворыцца ў дакуменце.

Падобныя заявы яшчэ больш радыкалізавалі дэмакратычную грамадскасць у справе Цітушкі. Як заявіў апазіцыйны палітолаг Тарас Беразовец, працэс над Цітушкам будзе мець не толькі фатальныя вынікі для лёсу ўкраінскай журналістыкі, аднак і ўвогуле для бяспекі кожнага ўкраінца. «Вадзім «Румын» Цітушка павінен быць пакараны, або гэта дасць «зялёнае» святло іншым «гопнікам» беспакарана біць людзей».

Яшчэ далей пайшоў малады цярнопальскі дэмакрат Сцяпан Барна, які 20 чэрвеня праз сваю старонку старонцы ў Фэйсбуку выклікаў «адмарозка» Румына на двубой. Барна піша: «Вадзік, калі ў табе яшчэ засталося нешта ад мужчыны, сустрэнься са мной на рынгу! Я навучу цябе паважаць украінскіх жанчын. Чакаю твайго адказу!» Румын прыняў выклік. Так што цяпер, як кажуць, — рабіце стаўкі!

Усё гэта гісторыя чым далей, тым больш нагадвае некантралюемы працэс з трагікамічнай афарбоўкай. Аднак ёсць адна важная дэталь. Усё больш палітолагаў пагаджаюцца з тым, што бойка падчас мітынгу 18 мая — праява новай сацыяльнай рэальнасці сучаснай Украіны. Пра гэта, напрыклад, піша палітолаг Юрый Раманенка. Паводле яго слоў, «сам феномен «быдла» становіцца прадуктам незалежнай Украіны. Падобныя малойчыкі — гэта яркія прадстаўнікі пакалення ўкраінскай «біямасы», якая вырасла ва ўмовах інфраструктурнай і сацыяльнай дэградацыі Украіны. Не выпадкова гэтым дзецям па 20 гадоў — яны цалкам сфармаваліся як індывіды ва ўмовах незалежнасці».

Таму цікава аналізаваць феномен Вадзіка Румына ў кантэксце дыскусіі пра магчымую Асацыяцыю Украіны з ЕС, у рамках якой шмат кажуць пра гістарычны, аксіялагічны і цывілізацыйны выбар Украіны паміж Еўропай і Расіяй. Аднак у праекцыі на сацыяльную дынаміку — станаўленне групы з умоўнай назвай «вадзікі румыны» — падаецца не актуальным. Значна больш кампетэнтны прагноз на бліжэйшую будучыню краіны, які прапануе інтэрнэт-выданне «Хвіля»: «Гэта (вадзікі румыны) — гліна... Ёю лёгка маніпуляваць, але ўсё роўна іх трэба карміць. А няма каму. Альтэрнатыва ў іх невялікая. Міграцыя за мяжу абмежаваная, паколькі і ў Еўропе, і ў Расіі нарастае эканамічны крызіс. Плюс патрэбна кваліфікацыя, а яна — не самы моцны канёк пакалення. Таму самыя моцныя і нахабныя будуць збівацца ў зграі і шукаць, дзе пакарміцца. Зрэшты, у Запарожжы і іншых прамысловых гарадах паўднёвага ўсходу краіны 1990-я гады ўжо вярнуліся».

Таму цяперашні суд над Цітушкам — гэта фарс. З улікам таго, што Партыі рэгіёнаў важна выглядаць сваімі сярод люмпенізаванай моладзі, Цітушку стоадсоткава адмажуць. Больш за тое, у прэсе ўсё больш спекуляцый наконт таго, што спартсмена чакае фантастычная палітычная кар'ера. Асабліва, калі ўзгадаць, што Віктар Януковіч таксама пачынаў з гоп-стопаў. «Мяркуючы па тым, як бароніць «ахоўніка» Вадзіма Цітушку ўлада заможных — ад дэпутатаў Партыі рэгіёнаў да сілавікоў — просты хлопец з Белай Царквы можа прэтэндаваць на большае. Напрыклад, на месца ў Вярхоўнай Радзе. Ці ў міністэрстве. А там, глядзіш, і да прэзідэнта дарасце. Добры ж хлопец», — разважае ўплывовы часопіс «Карэспандэнт».

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### МІХАІЛ СААКАШВІЛІ



Прэзідэнта Грузіі абвінавацілі ў падрыхтоўцы правакацыі з мэтай зрыву таварыскага футбольнага матча тбіліскага і маскоўскага «Дынама». Гульня адбылася 7 ліпеня ў грузінскай сталіцы і павінна была сімвалізаваць пачатак дыялогу паміж Грузіяй і Расіяй. Аднак нацыяналістам гэта не спадабалася. Асабліва абурыла іх прысутнасць на матчы дэпутата Дзярждумы Сяргея Гаўрылава, які галасаваў за прызнанне незалежнасці Абхазіі і Паўднёвай Асеціі. Напярэдадні гульні незадаволеныя сябры ініцыятывы «Вольная зона» арганізавалі свой матч каля ўваходу на стадыён. У выніку паліцыі давялося ўжываць сілу. Двое з пратэстоўцаў былі затрыманыя да раніцы наступнага дня. Затрыманне выклікала асабістае абурэнне Саакашвілі, які патрабаваў тэрмінова вызваліць вязняў са спасылкай на тое, што Гаўрылаў, супраць якога пратэставалі арыштаваныя, працуе на ФСБ. Між тым, дэпутаты ад кіруючай у краіне кааліцыі «Грузінская мара» лічаць, што менавіта Саакашвілі і замовіў акцыю пратэсту каля стадыёну. «Усе добра ведаюць, што фінансуюць «Вольную зону» Нацыянальны рух і Міхаіл Саакашвілі. Гэтыя хлопцы выконваюць іх заказ. Таму тое, што адбылося, — гэта добра спланаваная правакацыя», — кажа адзін з праўладных дэпутатаў.

### РАУЛЬ КАСТРА



Кіраўнік Кубы абвясціў пачатак новага этапу рэформаў на Востраве Свабоды. Галоўны мэсэдж камандантэ — пачынаецца паступовая дэрэгуляцыя эканомікі, якая значыць пашырэнне эканамічнай аўтаноміі дзяржаўных прадпрыемстваў. Перш за ўсё, гаспадарчыя аб'екты атрымаюць права самастойна шукаць замежныя інвестыцыі. Але галоўная фішка рэформы — ідэя пра тое, што 50 працэнтаў прыбытку прадпрыемства будуць належаць іх працоўнаму калектыву. Дырэкцыя прадпрыемства (зразумела, пад кантролем Кампартыі і ўраду) можа размяркоўваць прыбыткі сярод служачых. Хаця пры гэтым намеснік Кастра дадаў, што эканамічная мадэль, як патрабуе традыцыя рэвалюцыі, будзе і далей абапірацца на прынцып калектыўнай, а не прыватнай уласнасці». Цікава, што частка прамовы пра рэформы тычылася прадпрыемстваў, якія працуюць неэфектыўна. На працягу двух гадоў плануецца скараціць колькасць іх супрацоўнікаў або правесці канверсію гаспадарчых суб'ектаў у больш эфектыўныя за кошт іх прыяднання да паспяховых прадпрыемстваў. Такая мера тэарэтычна значыць масавыя звальненні. Праўда, у 2010 годзе, калі Кастра абвясціў першы раунд рэформаў, ён патрабаваў ад прафсаюзаў маральна падрыхтаваць працоўных да магчымых хуткіх звальненняў. Таму апазіцыя і аналітыкі дружна назвалі абвешчаныя Раулем рэформы касметычнымі.

### РЭДЖЭП ТАЙІП ЭРДАГАН



Карыстаючыся тым, што ўвага ўсёй сусветнай супольнасці прыцягнутая да падзей у Егіпце, турэцкі прэм'ер пачаў новую фазу пераследу актывістаў, якія стаяць за нядаўнімі пратэстамі ў Стамбуле. Перш за ўсё, арыштаваныя ўсе лідары т. зв. «Taksim-Plattform» — кааліцыі грамадзянскіх ініцыятыў, якія выступілі супраць знішчэння парку Гезі. Усяго за кратамі аказалася 30 чалавек. Цікава, што як толькі лідараў «Taksim-Plattform» засадзілі, губернатар Стамбула радасна абвясціў пра тое, што зона парку зноў становіцца даступнай для публікі (на працягу трох тыдняў яна была акупаваная спецназам). Аднак значна больш турбуе грамадскасць інфармацыя пра тое, што пры некаторых структурах урадавай партыі пачалі ствараца ваенізаваныя секцыі, якія, быццам, будуць фізічна распраўляцца з апазіцыяй. Падставай для чутак стаў напад групы невядомых на фанатаў стамбульскага клубу «Бешыкташ», тардсіда якога прымала актыўны ўдзел у апошніх падзеях. Былі зафіксаваныя напады на шэраг грамадскіх актывістаў. Аднаго з хуліганаў затрымалі, аднак суд 8 ліпеня яго вызваліў. У адказ на правакацыі ўлады група «Левыя мусульмане», якая ўзнікла ў час пратэстаў, абвясціла пра стварэнне сваёй міліцыі для барацьбы з штурмавікамі Эрдагана.

▸ СЛЕД У ЖЫЦЦІ

# «ЖЫЦЦЁ НЕ ПЕСЦІЛА МЯНЕ...»

Лявон ЦЕЛЕШ

**Менавіта такую назву носіць кніга, у якой выбітныя беларускія літаратуразнаўцы дзеляцца сваімі ўспамінамі пра вучонага — філолага, прафесара, акадэміка, паэта, удзельніка Вялікай Айчыннай вайны Васіля Уладзіміравіча Івашына. Нядаўна споўнілася 100 гадоў з дня яго нараджэння, а не дажыў ён да свайго стагоддзя ўсяго тры з паловай гады.**



Васіль Удадзіміравіч Івашын



Фота аўтара

Загадчыца бібліятэкі Людміла Кастарэнка азнаёміла з экспазіцыяй, прысвечанай Васілю Івашыну

У кнігу, шчодра ілюстраваную фатаграфіямі, увайшлі таксама выбраныя вершы Васіля Івашына, бібліяграфічны спіс яго прац. А ў якасці загалоўка назвы кнігі ўзятыя радкі з яго верша:

*Жыццё не песціла мяне,*
*Не ведаў я ягонай ласкі.*

*Жыццё сапраўды не песціла* Васіля Івашына. А каго яно песціла з ліку нашых суайчыннікаў старэйшага пакалення, што прайшлі так шмат выпрабаванняў?! Магчыма, толькі герояў папулярнага прапагандысцкага кінафільма «Кубанскія казакі».

## У віхурах рэпрэсій і вайны

Нарадзіўся Васіль Івашын 9 мая 1913 года на Койданаўшчыне, у вёсцы Ляхавічы, у шматдзетнай сялянскай сям'і. У яго было два браты і дзве сястры, сярод якіх ён быў старэйшы. Вучыцца Васілю давялося шмат.

У школу хадзіў за 7 кіламетраў, праз лес. І са школы ж пачаў пісаць вершы. Аднак непаэтычныя і суровыя гады сталінскага тэрору, калі былі знішчаны сотні беларускіх пісьменнікаў, не спрыялі творчаму ўзлёту юнака. У 1933 годзе Васіль Івашын скончыў Мінскі транспартна-эканамічны тэхнікум. І ў гэты ж год быў арыштаваны, а затым і расстраляны яго першы літаратурны настаўнік Лукаш Калюга. На вачах студэнта Івашына знікалі беззваротна і яго сябры.

Тэхнікам-эканамістам Васіль Івашын быць не збіраўся, любоў да мастацкай літаратуры прывяла яго ў 1934 годзе на літаратурны факультэт Мінскага педінстытута. Пад цяжкі молат сталінскіх рэпрэсій трапіў і бацька Васіля Івашына, просты селянін Уладзімір Сцяпанавіч. У 1937 годзе ён быў арыштаваны і расстраляны. Засталася маці, Ганна Іванаўна, якая адна выхоўваць дзяцей. Пра лёс бацькі Васіль Івашын апавядае ў сваім вершы «Сон», які надрукаваны ў кнізе:

*Рушыла лавіна,*
*З громам шуганула*
*І ў адну хвіліну*
*Бацьку праглынула.*

У 1938 годзе Васіль Івашын скончыў інстытут і быў накіраваны на працу ў Віцебскую педвучэльню выкладчыкам беларускай мовы і літаратуры. Калі грымнула вайна, малады педагог быў мабілізаваны ў армію. Ужо 6 ліпеня 1941 года ён прыйшоў на зборны пункт. Давялося служыць яму ў звышсакрэтных вайсковых падраздзяленнях — абслугоўваць баявыя машыны рэактыўнай артылерыі, якія ў народзе празвалі «Кацюшамі». Паказальна, што такая ў той час сакрэтная тэхніка была даверана сыну «ворага народа». Васіль Івашын прайшоў праз усю вайну і ў званні старшыны сустрэў свята Перамогі, якое супала з днём яго нараджэння — 9 мая. За ратныя подзвігі Васіль Івашын быў узнагароджаны ордэнам Вялікай Айчыннай вайны II ступені і многімі медалямі.



Загадчыца сельскага клуба Вольга Дадырына ля дуба Івашыных



Дуб, які ў пачатку XIX стагоддзя пасадзіў прапрадзед Васіля Івашына

## У навуку

Пасляваенныя гады сталі для былога франтавіка часам станаўлення як вучонага. Паэтычная іскра, пра якую казаў юнаку Лукаш Калюга, не згасла: праз усё жыццё пранёс Васіль Івашын любоў да беларускага слова і беларускай літаратуры. Пасля заканчэння вучобы ў аспірантуры і абароны кандыдацкай дысертацыі працаваў у Інстытуце літаратуры АН БССР, а ў 1965 годзе стаў доктарам філалагічных навук. З кастрычніка 1967 года да 1978 года Васілій Івашын ўзначальваў Навукова-даследчы інстытут педагогікі Міністэрства асветы БССР, і быў абраны акадэмікам Акадэміі педагагічных навук СССР.

Мяняліся назвы навуковых арганізацый, у якіх даводзілася працаваць вучонаму, але ён заставаўся адным з самых аўтарытэтных і паважаных асоб у вучоным свеце. Пра гэта сведчаць успаміны аб ім у кнізе тых, хто працаваў з ім і добра ведаў яго — гэта Алесь Бельскі, Уладзімір Гніламёдаў, Дзмітрый Бугаёў, Міхась Мушынскі, Мікола Мішчанчук , Васіль Зуёнак, Міхась Тычына і іншыя. Змешчаны ў кнізе ўспаміны і яго дачкі, Наталлі Івашынай.

Амаль шэсць дзесяцігоддзяў адпрацаваў Васіль Івашын у беларускім літаратуразнаўстве. Ён — аўтар больш за 300 навуковых прац, вядомы спецыяліст па творчасці Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча і іншых пісьменнікаў.

Першая праца маладога вучонага называлася «Янка Купала — вялікі народны паэт». Затым з'явілася новае даследаванне «Янка Купала: творчасць перыяду рэвалюцыі 1905–1907 гг». Некалькі пакаленняў вучыліся па яго падручніках беларускай літаратуры. Вершы Васіль Івашын пісаў яшчэ ў дзіцячыя і юнацкія гады, але яны нідзе не друкаваліся.

А сапраўдны паэтычны талент у ім праявіўся тады, калі яму было 82 гады. Як адзначыў у сваіх успамінах Уладзімір Гніламёдаў, Васіля Івашына як самага позняга дэбютанта ў гісторыі паэзіі можна ўносіць у Кнігу рэкордаў Гінеса. Спачатку ён выдаў кнігу вершаў «Слова», затым «Покліч памяці», а ў след — трэці і чацвёрты зборнікі паэзіі «З верай і надзеяй», «Прызванне». Многія вершы паэта прысвечаны Янку Купале, творчасць якога ён даследаваў.

## Малая радзіма

Васіль Івашын любіў прыроду, сваю вёску Ляхавічы. З вялікай любоўю ён піша аб сваіх родных мясцінах у вершы «Табой, мая радзіма, узгадаваны»:

*І ўсё тваё мне стала блізкім, родным,*
*Ўсё адгукнулася ў маёй душы:*
*І песня матчына з тугою народнай,*
*І рэчка Уса, што плыла ў цішы.*

Паэт Васіль Івашын больш за ўсё на свеце любіў матчыну мову:

*Ты дала мне ўсё тое, што магла,*
*Ты мудрасці крыніцы мне адкрыла.*
*Ты, мова, свет Купалы зберагла*
*І Коласаву праўду падарыла.*

У сваім апошнім інтэрв'ю газеце на пытанне журналіста, якое месца на зямлі яму мілей, ён адказаў, што наймілей — лес ля вёскі, у якой нарадзіўся. Самым любімым яго святам быў Дзень Перамогі, а з музычных твораў яму былі больш даспадобы песні ваенных гадоў.

Нядаўна я наведаў вёску Ляхавічы, пахадзіў па сцяжынках, дзе хадзіў Васіль Уладзіміравіч. Загадчыца бібліятэкі Людміла Кастарэнка азнаёміла мяне з бібліятэкай, у памяшканні ўсталяваны стэнд, прысвечаны Васілю Івашыну. А затым яна і загадчыца сельскага клуба Вольга Дадырына азнаёмілі мяне з вёскай, што месціцца на маляўнічым беразе ракі Усы. Мяне ўразіў магутны дуб амаль у тры абхваты, на зламанай верхавіне якога звіў гняздо бусел. Мае спадарожніцы сказалі, што гэты дуб у пачатку XIX стагоддзя пасадзіў прапрадзед Васіля Івашына. Побач з дубам была хата, у якой нарадзіўся Васіль Уладзіміравіч. Зараз на тым месцы — двухпавярховы катэдж. Пра гэты дуб паэт напісаў у вершы «Размова з дубам» наступныя радкі:

*Пасаджаны прапрадзедам маім,*
*Ты стаў асілкам векавым.*
*Нашчадкі прыйдуць да цябе і ім*
*Ты будзеш блізкім, дарагім.*

Васіль Івашын быў не толькі выдатным вучоным і паэтам, а таксама і выдатным сем'янінам. Са сваёй вернай спадарожніцай жыцця Сімай ён пражыў душа ў душу 64 гады. Жонка была для яго надзейным сябрам і памочніцай — «пазаштатнай» машыністкай: друкавала рукапісы мужа. Разам яны выхавалі сына Аляксандра і дачку Наталлю. Дачка Наталля ўспамінае, што бацька яе быў рамантыкам, ідэалістам з чыстым сумленнем. Ён вельмі любіў рыбалку, з вялікім задавальненнем збіраў грыбы.

Такім быў Васіль Уладзіміравіч Івашын, чалавек шырокай і чуйнай душы, сапраўдны беларус, выдатны і таленавіты вучоны і паэт.

ЦІКАВА

# «НЁМАН». ГІСТОРЫЯ МАТАЦЫКЛА



Салдаты Войска польскага

Ігар МЕЛЬНІКАЎ

**Матацыкл «Нёман», які выпускалі ў Гродна ў міжваеннае дваццацігоддзе, быў, бадай, адным з лепшых на той час польскіх матацыклаў. Захавалася толькі некалькі аўтэнтычных экземпляраў. Адзін з іх знаходзіцца ў Музеі тэхнікі ў Варшаве.**




Сувязісты на матацыкле «Нёман»




Матацыкл «Нёман»




Польскія вайскоўцы на роварах «Нёман»

У другой палове 1930-х гадоў у Польшчы набіраюць папулярнасць малалітражныя матацыклы, якія ў народзе называліся «соткамі» (з-за аб'ёму рухавіка ў 100 см³). Зразумела, што такія матацыклы каштавалі танней за сваіх больш магутных братоў. Але была ў міжваеннай Польшчы і яшчэ адна абставіна, якая гуляла на карысць такіх матацыклаў. Для іх кіравання не трэба было мець вадзіцельскае пасведчанне. Таксама варта дадаць, што, набываючы польскі матацыкл, яго ўласнік пазбаўляўся праблем з набыццём дарагіх запчастак, якія патрабавалі замежныя мадэлі.

Такія матацыклы выпускалі ў Кельцах (фірма «SHL»), у Варшаве («Perkun»), у Быдгашчы («Tornedo») і, нарэшце, у Беластоцкім ваяводстве — у Гродна («Niemen»). Частка з гэтых матацыклаў была копіяй замежных брэндаў, другія ж былі арыгінальнай польскай прадукцыяй.

## Гісторыя брэнду

Варта адзначыць, што амаль уся дакументацыя фірмы «Нёман» была знішчана падчас Другой сусветнай вайны, таму гісторыю калісьці знакамітага завода мы можам аднавіць толькі па матэрыялах тагачаснай прэсы і іншых нешматлікіх крыніцах, якія ў сваёй большасці захаваліся ў Польшчы. У 1894 годзе сям'я Старавольскіх адчыніла ў Гродна на вуліцы Брыгіцкай, 20 фабрыку металапрадукцыі. Паступова акрамя швейных машынак і іншых вырабаў з металу прадпрыемства пераключылася на вытворчасць веласіпедаў.

Нават вялікі эканамічны крызіс 1929–1933 гадоў не перашкодзіў гродзенскай фірме рэалізаваць свае амбіцыйныя планы. У другой палове 1930-х гадоў на «Нёмане» працавала 100 чалавек. Пра маштаб вытворчасці сведчыць той факт, што ў 1936 годзе фабрыка выпусціла 10 тысяч веласіпедаў, а таксама запчастак да іх. Варта адзначыць, што часцей за ўсё гродзенцы капіравалі нямецкія мадэлі ровараў, але са значнымі мясцовымі дапрацоўкамі. Сядзенні замаўляліся ў Латвіі, а элементы колаў — у нямецкай фірме «Fichtel und Sachs».

У 1934 годзе завод пачаў выпускаць мотаровары. Гэта былі звычайныя ровары, на якія мантаваліся рухавікі аб'ёмам 75 см³ з Германіі. Выпускалася мужчынская і жаночая мадэлі ровару. Дадзеная прадукцыя дапамагла падрыхтавацца «Нёману» да зусім новай вытворчасці. Уласнікі завода Нохім і Ларар Старавольскія, а таксама Ісаак Піваварскі разумелі, што на рынку пануе ўжо іншы трэнд. Людзі жадалі купляць недарагія і выгадныя матацыклы «соткі».

## «Крэсовы» прадукт на польскім рынку

Бізнэсмэны з Гродна пачынаюць з рэбрэндынга, змяняючы назву фірмы на «Крэсовы завод па вытворчасці ровараў і матацыклаў «Нёман». Ужо ў 1936 годзе на рынку з'явіліся першыя гродзенскія матацыклы з імпартнымі рухавікамі. У 1938 годзе было выпушчана ўжо 166 матацыклаў. Новая прадукцыя ўвасобіла ў сябе лепшыя якасці найбольш вядомых тагачасных сусветных марак.

Даследчыкі да сённяшняга дня не могуць прыйсці да адзінай высновы, ці гэта быў цалкам айчынны (польскі) праект, ці таленавітыя бізнэсмэны з Гродна скапіравалі знешні выгляд матацыкла, ці, можа, яны набылі ліцэнзію ў замежных фірм. Па знешняму выгляду «Нёман» быў вельмі падобны да лёгкіх англійскіх матацыклаў «Villiers» ці «Excelsior». Дарэчы, гродзенскія матацыклы абсталёўваліся двухцыліндровымі рухавікамі брытанскай фірмы «Вікерс» з Вулверхэмптона.

Найбольш папулярным быў «Нёман» з рухавіком аб'ёмам 98 см³ і троххуткаснай каробкай перадач. Таксама вельмі папулярнымі былі матацыклы з рухавіком 150 см³. Менш распаўсюджаным быў «Нёман 125». Варта падкрэсліць, што ў матацыклах «Нёман 98» узору 1938 года, акрамя замежнага рухавіка, выкарыстоўваліся брытанскія элементы падсвятлення (пярэдняя фара фірмы «Villiers» і задняя ад «Joshep Lucas LTD»). Максімальная хуткасць матацыкла была 70 кіламетраў на гадзіну. На матацыклах «Нёман» ставіліся шыны айчыннай вытворчасці, зробленыя ў Познані на фабрыцы «Stomil». «Нёман 98» каштаваў 900 злотых. Гэта была немалая сума, аднак, калі параўнаць кошты на іншыя маркі польскіх «сотак» з коштам гродзенскага матацыкла, дык становіцца зразумела, што апошні быў якраз бюджэтным варыянтам.

«Нёман» — матацыкл на адну асобу, аднак польскія правілы дарожнага руху таго часу не забаранялі ўстанаўліваць на матацыкл дадатковае сядзенне. Аб'ём бензабака (10 літраў) дазваляў уладальніку матацыкла праехаць да 400 кіламетраў.

## Хто ездзіў на «Нёманах»

Галоўны кантынгент пакупнікоў гэтага матацыкла складалі жыхары Віленскага, Навагрудскага і Палескага ваяводстваў міжваеннай Польшчы. Гэты чыннік паўплываў на тое, што да сённяшняга дня захавалася вельмі мала экземпляраў матацыкла. Справа ў тым, што «Нёманамі» карысталіся вайсковыя асаднікі, вайскоўцы, паліцыянты, прадстаўнікі дзяржаўнага апарата, інтэлігенцыя.

Пасля «ўз'яднання» Заходняй Беларусі з БССР амаль усе гэтыя катэгорыі польскіх грамадзян падпалі пад сталінскія рэпрэсіі, а іх маёмасць, у тым ліку і матацыклы, была перададзена ў даход дзяржавы. Так, у снежні 1939 года кіраўнік БССР Панцеляймон Панамарэнка ў лісце да Іосіфа Сталіна адзначаў, што «амаль у кожнай гаспадарцы асаднікаў было некалькі ровараў, а таксама матацыклы». Пасля дэпартацыі асаднікаў гэтае "двухколае багацце" Панамарэнка прапанаваў перадаць у распараджэнне мясцовай улады. Напрыклад, «Нёман 98» быў ва ўласнасці ў страхавога агента з Кобрына, афіцэра запасу Войска Польскага, беларуса Віктара Амельянюка. У верасні 1939 года гэты чалавек загінуў у баях з гітлераўцамі. Яго матацыкл знаходзіўся дома, у Кобрыне, і быў канфіскаваны па распараджэнні савецкіх улад.

Напрыканцы 1930-х гадоў фірма Старавольскіх мела практычна манаполію на продаж матацыклаў у Заходняй Беларусі. Справа ў тым, што іншыя польскія фірмы, займаючыся вытворчасцю матацыклаў, амаль не мелі сваіх крамаў у заходнебеларускіх ваяводствах. Ды і сервісныя цэнтры адсутнічалі. А вось у гродзенскай фірмы было сваё прадстаўніцтва ў Варшаве на вуліцы Сенаторсай, 28, а таксама ў Кракаве. Акрамя гэтага, у сталіцы быў вялікі склад запчастак і аксесуараў да матацыклу «Нёман».

Гродзенскія матацыклы былі прэзентаваныя падчас вялікага польскага кірмашу ў Познані. У красавіку 1939 года «Нёманы» першы раз прынялі ўдзел у гонках, арганізаваных вайсковым спартыўным клубам «Легія» па маршруце Варшава — Мінск Мазавецкі — Атвоцк — Варшава. Партыю ровараў і матацыклаў «Нёман» закупіла для ўласных патрэб Войска Польскае. Гэтая тэхніка была зручнай у эксплуатацыі.

У 1984 годзе ля польскага мястэчка Студзінек пад Радамам быў знойдзены закапаны ў зямлю гродзенскі мотаровар «Нёман». Ён выкарыстоўваўся польскімі жаўнерамі падчас вераснёўскай кампаніі і быў схаваны разам з іншымі вайсковымі прыладамі пасля адступлення польскіх войскаў.

Усяго да пачатку Другой Сусветнай вайны ў Гродна было зроблена да 500 матацыклаў «Нёман». На другую палову 1939 года кіраўніцтва «Крэсовага завода па вытворчасці ровараў і матацыклаў «Нёман» планавала павялічыць вытворчасць сваёй прадукцыі ў разы, аднак рэалізацыі гэтых планаў перашкодзіла вайна. Гатовая прадукцыя, якая знаходзілася на складах завода, была рэквізавана савецкай уладай, а лёс гаспадароў завода не вядомы. Хутчэй за ўсё, яны сталі ахвярамі савецкіх рэпрэсій.

ДЭБЮТ

# STARDUST CIRCUS ЗАПІСАЛІ «СТАЛІНСКІ» АЛЬБОМ

Вячаслаў РАДЫЁНАЎ

**Глэм-рокеры «Stardust Circus» прэзентавалі на партале Ultra-Music.com свой дэбютны альбом «Monkeys of XXI». Па словах музыкаў, для альбома характэрныя не толькі эксперыменты з рознымі музычнымі стылямі і кірункамі, але і прынцыпова новая візуальная канцэпцыя групы.**




— Гэтым альбомам мы хацелі паказаць, што наша творчасць нашмат шырэй набіўшай аскому формулы «Sex, Drugs, Rock'n'Roll», — кажа гітарыст і заснавальнік групы Stevie Black. — Альбом пра жыццё вуліц, гвалт, беспарадкі, тыранію і цёмны бок Rock'n'Roll'а. Пры гэтым наш фірмовы драйв нікуды не падзеўся, а стаў больш злы, сэксуальны і востры. Таксама памянялася і наша візуальная частка. Натхненне мы чэрпалі ў 1930-х гадах СССР і ў таварыша Сталіна.

Музыкі лічаць, што, у адрозненне ад мінулых запісаў, яны здолелі лепш перадаць атмасферу сваіх жывых выступаў. Альбом складаецца з 11 трэкаў, большасць з якіх ужо гучалі на канцэртах «Stardust Circus».

— Падчас запісу нам па розных чынніках прыйшлося змяніць тры студыі і двух гукарэжысёраў. У выніку мы задаволеныя кожным трэкам, у кожнай песні свая гісторыя і атмасфера. Звядзенне і майстарынг дыска выраблялiся ў Сіэтле, — кажа франтмэн калектыву Dave Loretti.

Адразу пасля выхаду альбома гурт пачне падрыхтоўку да маштабнай прэзентацыі, якая адбудзецца 18 верасня ў клубе «Re:Public».

— Для нашага стылю візуальная частка вельмі важная, — кажа Stevie Black. — Вельмі доўга распрацоўвалі касцюмы, падлучылі велізарны натоўп людзей. Таму ўсё гэта хочацца паказаць не на пляцоўцы якоганебудзь маленькага клуба. Там гэта не будзе глядзецца. Мы плануем задзейнічаць экраны. Адзіная праблема, што ўсюды забаронена піратэхніка. Яна была забаронена ў «Рэактары», яна забаронена ў «Re:Public», а ў нас на яе вялікі ўпор.



МЕРКАВАННЕ

# ПАЎСТАННЕ КАЛІНОЎСКАГА — БУНТ, МЯЦЕЖ, «ПАМАРАНЧАВАЯ РЭВАЛЮЦЫЯ»?

Алесь КІРКЕВІЧ

**На 150-я ўгодкі Паўстання 1863 года ў Аляксандра ІІ значна больш шансаў паўстаць у цэнтры Мінску, чым у Каліноўскага.**





Пасля патаплення ў крыві Паўстання 1831 года Пушкін напісаў свой знакаміты верш «Клеветникам России», дзе ўсё, што адбывалася на тэрыторыі Беларусі, Польшчы, Літвы, Украіны, а пасля — Сібіры, назваў «спором славян между собою»:

…Что возмутило вас? волнения Литвы?
Оставьте: это спор славян между собою,
Домашний, старый спор, уж взвешенный судьбою…

Тэкст быў адрасаваны французскім журналістам і парламентарыям, якія выказвалі пратэст супраць расправы з паўстанцамі-патрыётамі. Канешне, падаўленне паўстання ў межах былога Вялікага Княства больш цягне на «спор славян между собою», чым абставіны хуткай смерці самога «рускага класіка» (нашчадка мурына) ад кулі «рускага афіцэра» (француза па нацыянальнасці).

Ды і наогул расійскія афіцэры, збольшага немецкага паходжання ды з характэрнымі прозвішчамі, якія паміж сабой размаўлялі па-французску, наўрад ці ўспрымаліся мясцовым насельніцтвам як «браты-славяне». Тутэйшая шляхта, продкі якой заўсёды жылі на гэтай зямлі, размаўляла прынамсі па-польску ды ведала мясцовую, беларускую.

Аднак паспрабуем разабрацца ў паняццях. Чым было Паўстанне Каліноўскага? Бунтам ці мецяжом (як яго бачыла імперыя), тагачаснай «памаранчавай рэвалюцыяй» (як яго бачаць сучасныя «беларускія» ідэолагі), чарговым «спором славян между собою», антыкаланіяльным паўстаннем?..

Калі свае ваююць супраць сваіх — ідзе грамадзянская вайна. Калі свае супраць чужых — айчынная. Бывае, што чужыя ваююць супраць чужых (напрыклад, вайна 1812 года)…

Пакінуўшы Пушкіна ды лукашэнкаўскіх ідэолагаў убаку, разбярэмся з паняццем «бунт». Бунтам можна лічыць, напрыклад, выступ дзекабрыстаў на Сенацкай плошчы. Бацькаўшчына дзекабрыстаў, якую яны вызвалялі альбо ствaралі (Беларусь мела ўваходзіць у яе склад), існавала не далей за іх мроі ды заімжэлыя катаржныя сны.

А вось Бацькаўшчына паўстанцаў Каліноўскага жыла цалкам рэальным жыццём і была гвалтоўна падзеленая па кавалачках, каланізаваная ды знішчаная…

Каланізатары — а менавіта Кацярына ІІ — раздалі сваім памешчыкам больш за паўмільёна беларусаў (напрыклад, Сувораў атрымаў 25 тысяч нашых суайчыннікаў).

Каланізатары забралі ў гарадоў і мястэчак магдэбургскае права самакіравання ды гербы.

Каланізатары замест прафесійнага войска зрабілі пагалоўную пажыццёвую (!) рэкрутчыну, якую пасля «гуманна» скарацілі да 25 гадоў.

Каланізатары масава вывозілі з Беларусі помнікі мастацтва, калекцыі, цэлыя бібліятэкі (у тым ліку сотні тамоў Метрыкі ВКЛ).

Каланізатары ўвялі ў сельскай гаспадарцы монакультуру — бульбу (характэрны крок каланізатараў па ўсім свеце).

Каланізатары для сваіх стратэгічных патрэбаў знеслі цэлы горад — Берасце, збудаваўшы на яго месцы крэпасць.

Каланізатары забаранілі нацыянальную грэка-каталіцкую царкву, да якой належала 75% насельніцтва, замяніўшы яе на «рускую праваслаўную» (на той момант — усяго 6%).

Каланізатары ў 1840 годзе забаранілі назвы «Беларусь» і «Літва», увёўшы замест гэтага вызначэнне «Северо-Западный край».

Спіс, вядома, не поўны, але і гэтага хапае. І хай нікога не ўводзіць у зман тэрытарыяльная ды пэўная моўная блізкасць беларусаў і рускіх. Ірландыя таксама знаходзіцца зусім поруч з Брытаніяй, што не замінала апошняй ставіцца да мясцовых як да індусаў з далёкіх чайных плантацыяў.

Паўстанне Каліноўскага цалкам можна назваць антыкаланіяльным хаця б таму, што Беларусь — не Расія. І досыць.

Дарэчы, кагосьці, мажліва, здзівіла ініцыятыва прафесара БДУ (не памятаю прозвішча, ды і вам навошта?) увекавечыць Аляксандра ІІ, за якім і было задушана Паўстанне Каліноўскага, помнікам у Мінску. «Наўрад ці хто-небудзь з навукоўцаў зможа адмаўляць значэнне тых рэформаў, якія ажыццявіў імператар Аляксандр ІІ…» — тлумачыць прафесар. Хочацца толькі дадаць: «…а таксама значэнне рэформаў Гітлера ў будаўніцтве дарогаў, Гімлера — у сферы экстрэмальнай медыцыны…»

У выніку, на 150-я ўгодкі Паўстання 1863 года ў Аляксандра ІІ значна больш шансаў паўстаць у цэнтры Мінску, чым у Каліноўскага. Асабіста я прапанаваў бы выпусціць профіль Аляксандра-«асвабадзіцеля» на адной з юбілейных манет РБ (якія, як вядома, чаканяцца ў РФ). Сярод былых брытанскіх калоніяў падобная праява лаяльнасці, безумоўна, лічылася б добрым тонам.

ПАДЗЯКА

## ТБМ ДЗЯКУЕ ЗА ДАПАМОГУ!

Сакратарыят ТБМ выказвае шчырую падзяку ўсім грамадзянам Беларусі і замежнікам, якія адгукнуліся на нашу просьбу аб дапамозе, а таксама беларускім журналістам, якія распаўсюдзілі нашу просьбу ў СМІ. Паведамляем наступнае: па стане на 2 ліпеня 2013 года на рахунку ТБМ знаходзіцца 32.531.383 рублі. Таксама заплачана арэндная плата, камунальныя паслугі, тэлефон і інтэрнэт за май і чэрвень гэтага года. Дзякуючы вам, сядзіба ТБМ можа спакойна функцыянаваць да кастрычніка.

**Сакратарыят ТБМ**

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар
**Кароль Аляксей Сцяпанавіч**

Зарэгістравана Міністэрствам інфармацыі РБ. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК.** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ.** Прыватнае выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне №64 ад 12.01.2007 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА.**
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234.
Тэл. +375 29 986 38 05, +375 17 268 52 81.
novychas@gmail.com; www.novychas.info

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет».
г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А.

Замова № 818

Падпісана да друку 12.07.2013. 8.00.
Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.
Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая. Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.
(**S**) — матэрыял падрыхтаваны пры падтрымцы Пасольства Рэспублікі Польшча